*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17 (1376) 25 КРАСАВІКА 2018 г.**

# 100 гадоў таму назад - 28 красавіка 1918 года - беларуская мова афіцыйна стала дзяржаўнай мовай БНР




**28 красавіка 1918 года афіцыйна ўведзена ў дзеянне пячатка Рады БНР з Пагоняй і з надпісам на адзінай дзяржаўнай мове - беларускай.**

## 150 гадоў з дня нараджэння Рамана Скірмунта

**Раман СКІРМУНТ** (25 красавіка 1868, вёска Парэчча Пінскага павета - 7 кастрычніка 1939) - беларускі грамадска-палітычны дзяяч, буйны землеўладальнік. Паходзіў з беларускага шляхецкага роду Скірмунтаў. Скончыў Рыжскую класічную гімназію. Атрымаў адукацыю ў Варшаўскім універсітэце (юрыспрудэнцыя) і ў Венскім універсітэце (філасофія).

Раман Скірмунт выступаў як адзін з ідэолагаў краёўцаў, дамагаўся стварэння Краёвай партыі Літвы і Беларусі як міжнацыянальнага блоку польскай, беларускай і летувіскай палітычных арганізацыяў. У лістападзе 1905 г. ён надрукаваў у газеце "Kurier Litewski" зварот "Краёвай партыі Літвы і Русі" - фактычна праграму партыі, якая патрабавала ўвядзення ўсіх дэмакратычных свабодаў і найперш свабоды нацыянальнага жыцця і роўнасці нацыянальнасцяў, краёвага самакіравання, недатыкальнасці прыватнай уласнасці.

З 1906 Р. Скірмунт дэпутат першай Дзяржаўнай думы Расейскай імперыі, ініцыятар аб'яднання дэпутатаў-краёўцаў у г.зв. Групу заходніх ускраінаў. З кастрычніка 1910 да студзеня 1911 чалец Дзяржаўнага савета Расейскай імперыі.



У студзені 1917 г. узначаліў Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. З сакавіка 1917 г. - старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Менску. У красавіку 1917 г. узначаліў беларускую дэлегацыю да расейскага Часовага ўраду з патрабаваннем аўтаноміі Беларусі. У красавіку 1918 г. увайшоў у Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, у траўні 1918 г. яму даручылі фармаванне новага складу Народнага сакратарыяту Беларусі, з 9 ліпеня 1918 г. - прэм'ер ураду БНР і сакратар міжнародных справаў. Выказваўся за набыццё дзяржаўнымі органамі БНР рэальнай улады, збіранне вакол яе ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў, памяркоўную аграрную рэформу. 20 ліпеня 1918 г. пайшоў у адстаўку з пасады старшыні ўраду. Працаваў у міжнароднай камісіі Рады БНР. У польска-савецкую вайну 1920 г. імкнуўся не дапусціць падзелу Беларусі. Пасля на пэўны час Р. Скірмунт адышоў ад палітычнага жыцця, жыў у сваім маёнтку Парэчча. У 1930 абраны сенатарам Польскай Рэспублікі.

Быў забіты мясцовымі жыхарамі на загад савецкага камісара пасля заняцця Заходняй Беларусі савецкімі войскамі ў 1939 годзе.

***Вікіпедыя.***

ISSN 2073-7033




## Да слова беларускага праз Слова Божае




Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі, архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч 20 красавіка наведаў Ліду з важнай місіяй.

Кіраўнік Каталіцкай царквы ў Беларусі прыняў удзел у прэзентацыі Новага Запавету на беларускай мове. Гэта першы поўны афіцыйны пераклад на беларускую мову, выкананы беларускім рымска-каталіцкім касцёлам. Мерапрыемства адбылося ў сценах гістарычна-мастацкага музея Ліды.

Увосень прэзентацыя доўгачаканага выдання адбылася ў Менску ў касцёле святых Сымона і Алены і нацыянальнай бібліятэцы. А цяпер магчымасць урачыстасць вітаць Кнігу кніг выпала і нашаму гораду.

Сімвалічна, што заканчэнне працы супала з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання. Цікавы і той факт, што пераклад выкананы практычна адначасова з Праваслаўнай царквой Беларусі, што лішні раз пацвярджае рух дзвюх канфесій у адным кірунку.

Над канчатковым варыянтам кнігі калектыў перакладчыкаў працаваў на працягу 15 гадоў. Складанасць працы заключалася ў тым, што пераклад павінен быць зроблены менавіта на жывую сучасную беларускую мову. Таму праца была не столькі тэхнічнай, колькі творчай. Над выданнем працавалі супрацоўнікі секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў, якая працуе пры Каталіцкім касцёле Беларусі.

Тадэвуш Кандрусевіч звярнуўся з прывітальным словам да лідзянаў. Касцёльны іерарх падкрэсліў значнасць падзеі як для ўсяго беларускага народа, так і для кожнага хрысціяніна ў прыватнасці.

Доктар біблейскай тэалогіі Марына Пашук выступіла перад лідзянамі з дакладам. Навуковы супрацоўнік распавяла, што адметнай асаблівасцю дадзенага перакладу з'яўляюцца геаграфічныя карты тых часоў, біблейскі слоўнік, а таксама храналагічная табліца падзей, звязаных з агульнай гісторыяй чалавецтва.

Пакуль выдадзена каля 2 тыс. паасобнікаў Новага Запавету. Напрыканцы мерапрыемства мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч уручыў кнігі Новага Запавету прадстаўнікам мясцовай улады, супрацоўнікам гістарычна-мастацкага музея, раённай бібліятэкі, прадстаўнікам Праваслаўнай і Грэка-каталіцкай царквы і інш. Набыць выданне ў Лідзе можна ў Фарным касцёле.







У праграме візіту таксама была сустрэча са старшынём райвыканкама Міхаілам Карповічам, а таксама наведванне экспазіцый гістарычна-мастацкага музея і Лідскага замка.

***Вольга Ніканенка, 0154.by.***

№ 17 (1376) 25 КРАСАВІКА 2018 г. Наша слова

# Моладзь БНФ зладзіла першыя сустрэчы моўнага клуба

**“Ў-моўны клуб”** - новая ініцыятыва Моладзі БНФ, накіраваная на тое, каб згуртаваць людзей, зацікаўленых у вывучэнні роднай мовы, даць ім магчымасць папрактыкавацца ў ёй, падцягнуць свой узровень валодання беларускай мовай, а таксама добра, цікава і, галоўнае, з карысцю для сябе правесці час у беларускамоўным асяроддзі.

Пра “Ў-моўны клуб” карэспандэнту беларускай службы Польскага Радыё распавядае лідарка Моладзі БНФ Ганна Смілевіч (Пахолка):

- Наша ініцыятыва накіраваная да тых, хто дрэнна ведае беларускую мову або добра ведае, але жадае практыкавацца. Ёсць магчымасць збірацца ў нефармальнай абстаноўцы і размаўляць. Няма падручнікаў, дамашніх заданняў і г.д. Мы ладзім прагляды фільмаў на беларускай мове, абмяркоўваем навіны, чытаем кнігі. Адбылося ўжо некалькі сустрэч у Менску, у суботу - першая сустрэча клуба ў Віцебску. Мы вырашылі, што трасянку, я лічу, што ў той момант мы пачалі губляць частку таго, за што змагаліся нашыя продкі, - кажа наведнік клубу, студэнт ветакадэміі Іларыён Купрыянаў.

Адмысловым госцем сустрэчы стаўся паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч. Ён прачытаў свае творы ды пахваліў высілкі ў адраджэнні выкарыстання роднае мовы.

- У нас уся вёска, усё наваколле, гэта Менская цяпер вобласць, Вілейскі раён, хаця гэта была Заходняя Беларусь, але ні па-расейску, ні па-польску ніхто не размаўляў. Гаварылі толькі па-беларуску ўсе, а калі цяпер усё па-расейску, то гэта трэба вялікія намаганні, - адзначае паэт, перакладчык Уладзімір Папковіч.

- Спадзяюся, гэта будзе не разавая ініцыятыва, што яна пратрывае не адзін-два, а можа некалькі гадоў, - кажа ў каментары тэлеканалу Белсат кіраўнік Віцебскай арганізацыі Партыі БНФ Кастусь Смолікаў.

- Сядзелі, свае думкі выказвалі. Усё гэта па-беларуску, але хутчэй на трасянцы - шмат маладых людзей прыходзяць і толькі-толькі знаёмяцца з беларускаю моваю. І ў гэтым уся фішка, каб людзі пераадольвалі гэты страх. І вось праз музыку, фільмы, кнігі, проста размовы з людзьмі яны маглі размаўляць па-беларуску ў жыцці, - распавядае намеснік старшыні Партыі БНФ Юрась Лукашэвіч.




калі мерапрыемства спадабаецца, то будзем адкрываць такія “Ў-моўныя клубы” ў іншых гарадах… Беларуская мова карыстаецца ўсё большай папулярнасцю, моладзь жадае адраджаць беларушчыну, і ўсё больш людзей перастае саромецца і пераходзіць на беларускую мову.

Сустрэчы “Ў-моўнага клуба” адбываюцца ў Менску ў сядзібе БНФ па адрасе вул. Чарнышэўскага, 3-39, а ў Віцебску першае спатканне адбылося ў гэтую суботу (вул. 1-я Сенненская, д. 5).

Фільм, які супольна глядзелі на віцебскай сустрэчы, быў прысвечаны Палуце Бадуновай - сябру Рады БНР, беларускай патрыётцы, расстралянай НКВД.

Гісторыя, якая прымушае задумацца над прычынамі татальнай русіфікацыі ў Беларусі.

- Калі пачалося татальнае не знішчэнне, але замоўчванне гэтае мовы, пераход на

Бліжэйшым часам "Моладзь БНФ" рыхтуе такія сустрэчы ў Гомлі, Баранавічах, Берасці, Горадні і Барысаве. Актывісты заклікаюць сачыць за абвесткамі на іхняй інтэрнэт-старонцы ды прыходзіць усіх зацікаўленых і не саромецца свайго ўзроўню ведання мовы. Бо кожны крок бывае некалі ўпершыню.

Усю неабходную інфармацыю пра тое, як запісацца ў клуб, калі ён будзе адбывацца і дзе, можна знайсці на сайце: moladzbnf.info і ў суполцы ў Вкантакце - паведамляе Беларускае Радыё Рацыя.

# Прапановы дэпутата Алены Анісім аб беларусізацыі заканадаўства заблакавалі яе ж калегі

Гэта адбылося 18 красавіка на пленарным паседжанні Палаты прадстаўнікоў. Апошнім пытаннем парадку дня былі дапаўненні і змяненні ў рэгламент працы палаты.

Алена Анісім прапанавала змяніць артыкул № 119 рэгламенту і запісаць, што законы Палата прадстаўнікоў прымае на беларускай ***і*** рускай мовах, а не на беларускай ***і (альбо)*** расейскай мовах, як гэта прапісана цяпер.

Старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Леанід Цупрык сказаў дэпутатам, што, на думку камісіі, ініцыятыва Алены Анісім супярэчыць адразу двум законам: "Аб Нацыянальным сходзе" і "Аб мовах". Бо ў абодвух гэтых нарматыўных актах прапісана аб прыняцці законаў на беларускай ***і (альбо)*** расейскай мовах. Таму, сказаў Цупрык, камісія не мае падставаў станоўча паставіцца да прапановы дэпутаткі.

Разам з тым, падкрэсліў старшыня камісіі, Алена Анісім, як і кожны дэпутат Палаты прадстаўнікоў, мае права заканадаўчай ініцыятывы. А гэта азначае, што яна можа вынесці на разгляд калегаў свае змены да двух згаданых раней законаў.

Адразу пасля паседжання спадарыня Анісім пракаментавала сітуацыю для Свабоды.

- Мяне гэтым не спыніць. Я хацела вырашыць задачу найпрацейшым спосабам. Нічога, буду рыхтаваць змены да двух законаў. Гэта, зразумела, зойме дадатковы час, але што зробіш. Ад сваёй мэты не адступлюся. І не ўсё так страшна, - сказала яна.

Дэпутат таксама сказала, што адначасова будзе прасоўваць прыняцце законаў на дзвюх дзяржаўных мовах пры другім чытанні. На круглым стале ў Палаце прадстаўнікоў, паводле яе, усе юрысты казалі, што юрыдычных перашкодаў для гэтага няма.

- У мяне складаецца ўражанне, што прынцыповых праціўнікаў прыняцця законаў на дзвюх мовах няшмат. Галоўны іхні аргумент - неабходнасць дадатковага фінансавання. І вось тут трэба добра падумаць, як мінімізаваць выдаткі, - сказала дэпутат.

На думку Алены Анісім, адсутнасць усіх законаў на беларускай мове - прамое парушэнне Канстытуцыі, якое не дае грамадзянам абараніць свае правы ў судовым парадку. Бо пакуль законаў на беларускай мове няма, пераклады іх не маюць юрыдычнай сілы.

- Людзі звяртаюцца з тым, што іхнія правы парушаюцца, асабліва ў судах, і спасылаюцца на адсутнасць заканадаўства на беларускай мове. А мы як заканадаўцы, атрымліваецца, самі перашкаджаем іх канстытуцыйнаму праву і абвешчанай роўнасці моваў, - кажа Алена Анісім.

***Уладзімір Глод, радыё “Свабода”.***

# Немагчыма быць гаспадаром зямлі без ведання літаратуры

З лекцыяй "Невядомая беларуская літаратура: пра што вам не казалі ў школе" выступіла ў праекце "БелЛіт: мабільны гід" пісьменніца, літаратурная даследчыца і выкладчыца Смалявіцкай гімназіі Ганна Севярынец, аўтар-укладальнік кніг пра Алеся Дудара і Уладзіміра Дубоўку, і рамана "Дзень святога Патрыка". Не так даўно яна звярнулася ў Міністэрства адукацыі з адкрытым лістом з прапановай пераглядзець і дапоўніць спіс аўтараў, якія вывучаюцца ў школьнай праграме.



У новым, прыцягальным для моладзі праекце, арганізаваным кампаніяй МТС, запланавана шэсць лекцый. Удзельнікі заняткаў атрымалі залікоўкі, і паспяховыя наведвальнікі ўсіх лекцый у выніку атрымаюць не толькі адноўленыя веды, але "чырвоныя дыпломы" і прызы. Сустрэчы праходзяць а 19-тай гадзіне ў бізнэс-цэнтры "Імагуру" ў Менску па вул Фабрыцыуса, 7. Наведвальнікі лецый ужо мелі магчымасць сустрэцца з Юліяй Цімафеевай, Альгердам Бахарэвічам, Алесем Сушам. 4 і 23 красавіка пройдуць выступленні Вальжыны Морт, Андрэя Хадановіча, Ганны Бутырчык, Марыны Казлоўскай.






Ганна Севярынец імкнецца развянчаць міф аб тым, што беларуская літаратура з'яўляецца пераважна сялянскай, ваеннай і не цікавай. Геапалітычныя і гістарычныя скрыжаванні, на якіх стагоддзямі існуюць беларусы, на думку выкладчыцы, з'яўляюцца ключом для вывучэння беларускай літаратуры. Яе напаўняюць найцікавейшыя сюжэты, якія толькі трэба адшукаць. Але, на жаль, гэта не робіцца ў сярэдняй школе. Наадварот, у школьнай праграме творы падаюцца без іх харызматычнай афарбоўкі, без ілюстрацый і адпаведных каментароў. Выкладчыца падкрэсліла шматмоўны і політканфесійны характар беларускай літаратуры, бо на нашай зямлі ствараліся творы па-польску, па-расейску, па-беларуску, на ідыш і на іўрыце. "Немагчыма быць гаспадаром сваёй зямлі без ведання літаратуры. Нягледзячы на паўстанні, войны і акупацыі, беларуская літаратура жыве і дае свету таленавітых публіцыстаў, празаікаў і паэтаў", - упэўнена даследчыца.

У сваім выступленні Г. Севярынец узгадала пра цікавыя старонкі з жыцця Тамаша Зана, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, распавяла пра Уладзіслава Галубка і Уладзіміра Дубоўку. Аповед суправаджаўся дэманстрацыяй прэзентацыі з выявамі мясцін, звязаных з жыццём пісьменнікаў, рарытэтных фотаздымкаў.

***Э. Дзвінская,***
фота аўатара.

На здымках:
1. Ганна Севярынец;
2. Слухачы лекцыі;
3. Залікоўка ўдзельнікаў праекту "БелЛіт:мабільны гід".

# Шукаем будучых першакласнікаў для стварэння беларускамоўнага класа ў Фаніпалі

Невялікая колькасць навучэнцаў, асобная ўвага да кожнага дзіцяці і, адпаведна, высокі ўзровень навучання - тыя магчымасці, якія адкрывае для будучых першакласнікаў клас з беларускай мовай навучання.

Для стварэння беларускамоўнага класа ў сярэдняй школе № 1 г. Фаніпаля трэба набраць адпаведную колькасць будучых першакласнікаў.

Зацікаўленых бацькоў просім звяртацца па тэлефоне +375-29-504-32-06 (МТС), Яніна.





Сымон Барыс

# Гістарычныя ўрокі для беларусаў

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

Вялікія князі літоўскія Жыгімонт Стары, Жыгімонт Аўгуст і Станіслаў Панятоўскі праводзілі неабходныя рэформы ў дзяржаве. Апошняму рэформы не ўдаліся, бо яму перашкодзілі іх правесці і шляхта, і кіраўнікі суседніх дзяржаў. Рэфарматарамі ў Расійскай імперыі былі Пётр І, Аляксандр ІІ і Пётр Сталыпін, а ў Савецкім Саюзе - У. Ленін, М. Хрушчоў і М. Гарбачоў.

М. Гарбачоў вымушаны быў правесці палітычныя і эканамічныя рэформы, бо СССР пацярпеў паразу ў гонцы ўзбраенняў у спаборніцтве з ЗША. Тады ж у Савецкім Саюзе наступіў эканамічны крызіс, бо сусветныя цэны на нафту рэзка знізіліся. А СССР нават збожжа купляў у Канадзе і мяса - у Аргенціне. А на пачатку 1930-х гадоў Саюз ССР прадаваў збожжа ў Францыю, што прывяло ў 1932 -1933 гадах да "галадамору" на Украіне і голаду ў Паволжы, на Паўночным Каўказе, а таксама і на Палессі.

Гарбачоў аб'явіў Галоснасць і Перабудову. З удзелам народа ён хацеў рэфармаваць савецкую сістэму. Аднак народ, калі даведаўся ўсю праўду пра савецка-бальшавіцкую сістэму кіравання, пра войны і рэпрэсіі, разбегліся "па сваіх дамах" (рэспубліках), пакуль іх зноў не загналі ў агульную інтэрнацыянальную казарму на чале з генералам (Генеральным сакратаром ЦК партыі) і з адной рускай мовай (государственным русским языком), каб хутчэй пабудаваць камунізм. Дарэчы, у Савецкім Саюзе будавалі камунізм, але сапраўднага сацыялізму тут так і не было. А яго без дыктатуры камуністычнай партыі пабудавалі ў Швецыі і Нарвегіі. Кожны народ СССР захацеў жыць у сваёй незалежнай дзяржаве, бо нават саюзныя рэспублікі суверэнітэту над сваёй тэрыторыяй не мелі. Так І. Сталін без згоды СНК і ЦВК БССР змяняў межы Беларусі некалькі разоў. У выніку такіх сталінскіх "падарункаў" БССР страціла Беластоцкую вобласць, Віленскі край і некаторыя раёны Смаленскай вобласці. І трэба дзякаваць Богу і мудрасці М.С. Гарбачова, які не дапусціў грамадзянскай вайны ў 1991 годзе, як гэта здарылася ў Югаславіі ў 1991-1995 гг., 1999 і 2001 гадах. Там Прэзідэнт Югаславіі Слабадан Мілошавіч за тыя войны трапіў у турму Міжнароднага трыбунала ў Гаазе, дзе ён і памёр.

Як ставіўся савецкі народ да сваіх правадыроў? Аб гэтым добра сведчыць фальклор таго часу. Вось дзве амаль прытчы. Назавіце савецкіх цароў. Савецкія цары - гэта Уладзімір Чырвоны, Іосіф Грозны (Жахлівы), Мікіта Цудатворац, Леанід Летапісец, Міхаіл Мечаны. А як жылі за савецкімі царамі? Пры Леніне - як ў цягніку ў метро (вакол цёмна, а ўперадзе - ліхтар), пры Сталіне - як раніцай у аўтобусе (сядзяць, вісяць і трасуцца, а выйсці не могуць), пры Хрушчове - як у самалёце ў палёце (гойдае і нельга выйсці), пры Брэжневе - як у трамваі (едзем ціха па рэйках аж да развароту), пры Гарбачове - камфортна, як у таксі (але чым далей едзем, дык усё даражэй). Як мудра сказана! А што Сталін быў тыран і дыктатар, дык у расійскай гісторыі яго можна параўнаць з Іванам IV Грозным. Не буду прыводзіць шмат фактаў, але прывяду пару з гісторыі Беларусі. Беларусам першую пасаду па кіраванні КП(б)Б да 1956 г. не давяралі. Ім дазваляліся толькі пасады Старшыні СНК БССР і Старшыні ЦВК Саветаў БССР. На гэтых пасадах у розны час былі Язэп Адамовіч, Аляксандр Чарвякоў, Мікалай Галадзед, Зміцер Жылуновіч. Усе яны падчас рэпрэсій пакончылі сваё жыццё самагубствам, бо добра ведалі, што іх чакаюць пакуты, здзекі і расстрэл. Так паступіў у 1931 г. і першы прэзідэнт АН БССР Усевалад Ігнатоўскі, а праз 6 гадоў і яго двух сыноў расстралялі.

Узнікае пытанне: хто ж тады кіраваў Савецкай Беларуссю, калі яе кіраўнікоў расстрэльвалі альбо яны самі сябе забівалі!? Калі маладое пакаленне не ведае адказ на гэтае пытанне, то падскажу. Кіраўнікоў для БССР прызначалі ў Маскве са згоды Сталіна, а ў Менску толькі фармальна за іх галасавалі. А хто быў супраць, дык ён - "вораг народа". Цікавы лёс Першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гікалы (1932-1937 гг.). У многіх рэспубліках кіраваў і ў Беларусі падчас рэпрэсій выслужваўся, а ў 1938 г. яго самога расстралялі. Напэўна, за яго старанні. Гэта таксама ўрок для нас і для будучых пакаленняў.

Вялікую шкоду прычыніла Беларусі эміграцыя як прымусовая, так і па сваёй волі. Часта здаралася так, што нашы продкі былі вымушаны пакінуць нашу зямлю. А гэта былі здаровыя працаздольныя майстры і вучоныя. Захопнікі вывозілі іх у палон і сялілі на сваіх свабодных землях. Так шмат беларусаў у сярэдзіне XVII ст. апынулася ў Сібіры. Іх туды вывезлі маскоўцы ў час 13-гадовай вайны, якая вялася паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай. А баі вяліся на тэрыторыі ВКЛ. Туды ж адпраўлялі беларусаў у час Сталыпінскай рэформы на пачатку мінулага стагоддзя. Як сцвярджае іркуцкі беларус-патрыёт Алег Рудакоў: *"Аж 11 перасяленняў беларусаў было ў Сібір. Там яны сяліліся не толькі сем'ямі, а і цэлымі вёскамі"*. А пры савецкай уладзе ў далёкую Сібір людзі ехалі не толькі дабраахвотна па вярбоўцы, а прымусова перасялялі іх тысячамі, як ненадзейных у час рэпрэсій 1930-1940-х гадоў. У пасляваенны час праводзіліся масавыя вярбоўкі на перасяленне ў Карэлію, Сібір і на Далёкі Ўсход - на так званыя навабудоўлі камунізму. Некаторыя сяляне ехалі туды часова і заставаліся там жыць або загінулі. Не трэба думаць, што ў Беларусі не хапае зямлі для пражывання. Нават сённяшняя шчыльнасць насельніцтва ў Беларусі, напэўна, у 4 разы ніжэй, чым у Нямеччыне. Але ж чамусьці ўзровень жыцця там вышэйшы, чым у нас.

Раскіданы беларусы па ўсім свеце. Шмат іх жыве ў ЗША, Канадзе, Чэхіі, Польшчы, Літве, Латвіі і Эстоніі. Жывуць беларусы нават у далёкай Аўстраліі і Аргенціне. Францыя і Германія - таксама прывабныя краіны для беларусаў. Звярніце ўвагу, што гэта былі варожыя для нас дзяржавы. Французы і немцы прыходзілі сюды вайной, а немцы і не адзін раз. Выязджалі нашы землякі туды на заробкі альбо ратаваліся такім чынам ад турмы. На жаль, і на мяжы XX і XXI стагоддзяў эміграцыя працягваецца. З незалежнай Беларусі моладзь выязджае за мяжу часова, а можа і назаўсёды. Некаторыя з іх там атрымліваюць прытулак як палітычныя эмігранты. Цяпер настаў час, каб умацаваць нашу Рэспубліку Беларусь, трэба вярнуць беларусаў з-за мяжы. Не кітайцаў і сірыйцаў сяліць тут на льготных умовах, а сваіх бадзягаў. Ведайце, што ад дабра да дабра не ходзяць. Людзі ўцякаюць ад благога. Трэба кіраўніцтву нашай дзяржавы праводзіць такую палітыку, каб беларусы, што жывуць за мяжой, вярталіся сюды дамоў, як гэта робяць яўрэі, калі вяртаюцца ў Ізраіль. І не трэба ім перашкаджаць. Хай едуць дамоў, калі хочуць. Варта замежным беларусам выдаваць карту беларуса (як Польшча выдае беларускім палякам). Па гэтай карце трэба даваць пэўныя льготы, каб яны прыязджалі хоць часова, а можа і вярнуцца сюды назаўсёды, бо гэта іх Радзіма. Хай жа яны, набыўшы за мяжой прафесію, веды і грошы, вяртаюцца ў Беларусь, каб развіваць і будаваць сваю родную Бацькаўшчыну разам з намі, тутэйшымі. Для іх роднай зямлі нідзе няма. Настаў час вяртаць і нам усіх беларусаў дамоў на Бацькаўшчыну. Родная краіна чакае сваіх уцекачоў і высланых!

Уратуйма незалежную Беларусь! З усіх еўрапейскіх народаў, напэўна, толькі беларусы кепска ведаюць сваю гісторыю, не робяць высновы з мінулых падзей, а таму ўвесь час спазняюцца на свой "цягнік". На шчасце, беларусам удалося ў канцы XX ст. заняць сваё месца ў "апошнім вагоне", які лёгка адчапіць. У нас існуе больш чвэрці стагоддзя незалежная Беларусь, але ў гэтай краіне няма Нацыянальнага беларускага ўніверсітэта і не дабудаваны беларускі скансэн (Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту), у якім не прадстаўлены такія этнічныя тэрыторыі, як Усходняе Палессе, Заходняе Палессе і Панямонне, а таксама беларускае мястэчка. Чаму?

Нехта, напэўна, не лічыць Берасцейскую, Гомельскую і Гарадзенскую вобласці беларускімі. За 10 гадоў свае музеі "пад адкрытым небам" пабудаваны ў Літве, Латвіі і Эстоніі. На Украіне іх аж 3. У нас за 10 гадоў стварылі менш паловы беларускага скансэна, а з 1995 года нічога там новага і не пабудавана. Нават Вялікі Ноўгарад мае такі музей "Вітаславіцы". Скажаце, што ў нас няма грошай. Адкажу, што яны ёсць. Палічыце, колькі ў нас пабудавана лёдавых палацаў і іншых палацаў. А каму патрэбна такая паказуха, як штогадовыя вайсковыя парады ў Дзень вызвалення Менска і вайсковыя штогадовыя вучэнні!? Знайшліся немалыя грошы і на будучыя Еўрапейскія гульні.

У Менску ёсць плошча і праспект Незалежнасці, ёсць і праспект Пераможцаў. Але гэта не радуе. Чаму? Бо ўсё гэта для прапаганды. У нас на Беларускім тэлебачанні і ў дзяржаўных установах занядбана беларуская мова - родная мова беларускага народа. Чаму беларуская сталіца да гэтага часу мае польскую назву, а не сапраўдную беларускую - **Менск**. Чаму мы не адзначаем на дзяржаўным узроўні такія знакавыя даты з гісторыі Беларусі, як 25 сакавіка, 25 жніўня і 14 лістапада (Дзень уз'яднання беларускага народа)?! Чаму ўлада не шануе наш святы нацыянальны сцяг і герб "Пагоня"? У канцы 1991 года было выраблена 1000 ручных гадзіннікаў з выявай герба "Пагоня". Яны нават у магазіны не трапілі. Іх распрадалі за кароткі тэрмін на пачатку 1992 года за тысячу рублёў. На той час гэта было нядорага. Я сумеў той гадзіннік набыць, ён да гэтага часу ідзе. Пасля таго прайшло 26 гадоў, гадзіннікі Менскага гадзіннікавага завода ў магазінах прадаюцца, а вось з выявай "Пагоні" гадзіннікаў няма. Каму муляе герб "Пагоня"? Выпусцілі б гадзіннікі з нацыянальнай сімволікай 500 тысяч і разышліся б. Узялі б іх як сувенір тутэйшыя і замежныя беларусы. Чаго мы баімся? Не можам паказаць і прапагандаваць сваю спадчыну. Усё, што я тут пералічыў - гэта наш падмурак для ўмацавання незалежнасці Беларусі. Чаму ж у нас такое здараецца?

Адказы можна знайсці ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

1. Кіраўнікі і дзяржаўныя дзеячы нашай беларускай краіны ў Сярэднявеччы і ў Найноўшы час зашмат захапляліся афармленнем і здзяйсненнем розных уній і саюзаў. Аднак не ўсе яны былі выкліканы гістарычнай неабходнасцю, а хутчэй уласнымі схільнасцямі і памкненнямі асобных кіраўнікоў, якія не ўлічвалі такі бясспрэчны факт, што унія або саюз абмяжоўвае незалежнасць дзяржавы. Калі саюз Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, Мазовіяй і Псковам, заключаны ў 1326 г. супраць Тэўтонскага ордэна, быў неабходны, дык Крэўская унія (1385 г.) прынесла нашаму народу больш шкоды, чым карысці. Тады з'явілася на беларуска-ліцвінскіх землях калабарацыя - першая загана нашага народа. Вялікі князь літоўскі Ягайла быў першым калабарантам у нашай гісторыі. Яго памкненне дзеля сваіх асабістых інтарэсаў далучыць ВКЛ да Польскага Каралеўства прывяло да міжусобных войнаў на Беларусі. Вайна князя Андрэя Полацкага супраць караля польскага Ягайлы (Уладзіслава ІІ) у 1386 г. і вайна князя Вітаўта супраць Ягайлы ў 1390-1392 гг. І Андрэй Полацкі, і Вітаўт Вялікі адстойвалі незалежнасць ВКЛ. Мэты сваёй яны дасягнулі. Незалежнасць ВКЛ ад Польшчы была замацавана Вастраўскім пагадненнем 1392 г. і затым Віленска-Радамскай уніяй 1401 г.

Магла мець станоўчае значэнне Кейданаўская унія (1655 г.) - дагавор Януша Радзівіла са Швецыяй. Садзейнічала згуртаванню нашага народа Берасцейская царкоўная унія (1596 г.). Аднак неабходна адзначыць, што ажыццяўленне яе, часта крутымі метадамі, прывяло да канфрантацыі ў грамадстве, да бунту ў Віцебску ў 1623 г. і да забойства ўніяцкага епіскапа Ясафата Кунцэвіча.

2. Суседнія дзяржавы - Вялікае Княства Маскоўскае і Каралеўства Польскае - у час Сярэднявечча і ў Новы час праводзілі захопніцкую палітыку ў адносінах да ВКЛ. Так, Польшча перад заключэннем Люблінскай уніі ўключыла ўкраінскія землі ў склад Каралеўства Польскага. І гэта была стратэгічная памылка польскага караля, бо яна прывяла да нацыянальна-вызвольнай барацьбы ўкраінскага народа пад кіраўніцтвам гетмана Багдана Хмяльніцкага. Калі б Украіна была ў складзе ВКЛ, такой вайны магло і не быць. У той час Маскоўскае царства вяло пастаянныя войны супраць ВКЛ, і маскоўскія цары хацелі захапіць беларуска-літоўскія землі.

Як вядома, беларуска-літоўская шляхта згадзілася на заключэнне Люблінскай уніі (1569 г.) вымушана. Цяжар Інфлянцкай (Лівонскай) вайны (1558-1582 гг.) стаў галоўнай прычынай падпісання гэтай уніі. У выніку яе ўтварылася федэратыўная "дзяржава абодвух народаў" - Рэч Паспалітая. Былі і праціўнікі Люблінскай уніі. Так, Радзівілы Мікалай Руды і Мікалай Чорны нават не падпісалі той акт уніі. Іх падтрымліваў і канцлер ВКЛ Астафій Валовіч. Праз некалькі гадоў, дзякуючы мудрай палітыцы Льва Сапегі і Аўстафія Валовіча, якія падрыхтавалі Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., Рэч Паспалітая ператварылася ў канфедэратыўную дзяржаву. Імкненне польскіх паноў у 1791 г. шляхам ўвядзення Канстытуцыі Рэчы Паспалітай пазбавіць ВКЛ дзяржаўнасці прывяло да канфрантацыі і да канчатковага знішчэння яе як дзяржавы.

У XIII-XIV стст. самая вялікая небяспека для ВКЛ зыходзіла з поўначы і з поўдня - ад крыжацкіх рыцараў Тэўтонскага ордэна і ад мангола-татараў. У пазнейшыя часы - канец XIV-XVII стст. - найбольшую шкоду нашым продкам прынеслі войны з Масковіяй, Расіяй. Заходнім, паўночным і ўсходнім захопнікам дапамагалі тутэйшыя калабаранты. Былі калабаранты ў войнах 1812 г., 1919 г., 1941-1945 гг. На жаль, не перавяліся яны і цяпер. Адныя з іх, становячыся на шлях супрацоўніцтва з акупантамі, апраўдваюць свае дзеянні тым, што яны такім чынам змагаюцца за незалежнасць Беларусі, а іншыя маюць уласныя кар'ерныя мэты - атрымаць высокую пасаду, інакш стаць паўпанкам у акупанта.

3. Беларуская шляхта зрабіла значны ўклад у беларускую культуру. У той жа час яна не змагла аб'яднацца палітычна, бо "кожны шляхціц на сваім агародзе быў ваявода" і свае ўласныя інтарэсы ставіў вышэй за нацыянальныя, а прынцып аднагалоснага прыняцця законаў наогул прыводзіў да аслаблення дзяржавы, што і выкарысталі Расія, Прусія і Аўстрыя. Былі і сярод шляхты самаахвярныя сыны нашай Бацькаўшчыны, якімі мы можам ганарыцца. Гэта Тадэвуш Рэйтан, Леў Сапега, Самуэль Корсак, Тадэвуш Корсак, Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касцюшка, Валер Урублеўскі, Янка Купала і іншыя.

4. Зайздрасць - другая загана беларускай шляхты і тутэйшых сялян. У выніку гэтай заганы ў другой палове XVII ст. было супрацьстаянне ліцвінскіх магнатаў. Ствараліся канфедэрацыі (згуртаванні па саслоўях). Пасля забароны ў 1696 г. пісаць дакументы на беларускай мове магнаты Сапегі жадалі ўстанавіць у ВКЛ спадчынную манархію і аддзяліць ВКЛ ад Рэчы Паспалітай. У адказ на гэта канфедэрацыя шляхты (рэспубліканцы) на чале з Рыгорам Агінскім ваявала супраць Сапегаў у 1696-1700 гг. Ні Радзівілы, ні Агінскія, ні Пацы не былі зацікаўлены ва ўзмацненні ўлады Сапегаў. Міжусобныя войны ўсім ім прыносілі адны беды і няшчасці. Ім трэба было дамовіцца і падзяліць пасады. У той жа час у расійскага цара Пятра І былі свае стратэгічныя мэты, і міжусобная вайна на Беларусі яму была нават выгадна.

5. У XX і пачатку XXI ст. кожны беларускі інтэлігент лічыць сябе панам або падпанкам. У XIX ст. беларуская інтэлігенцыя складалася са шляхты і мела тыя ж заганы, што і служылая і сельская шляхта. У XX ст. беларуская інтэлігенцыя папаўнялася з сем'яў разначынцаў і сялян. На пачатку XX ст. беларускія інтэлігенты арганізавалі Беларускую сацыялістычную грамаду, наладзілі выпуск газеты "Наша Ніва" і выданне беларускіх кніг. А калі справа дайшла да ўлады, дык БСГ падзялілася на эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў. А затым у 1918 г., калі сфарміравалі ўрад БНР, у цяжэйшых умовах, нават не ўзяўшы ўладу ў свае рукі, утварылі ў снежні 1918 г. два ўрады БНР. А за якім урадам ісці простаму народу? А каго магла падтрымліваць Антанта? У той складаны час 1918-1919 гг., напэўна, больш разважліва паступілі Скірмунты, Радзівілы, Мірскія, Вайніловічы, бо не пайшлі на канфлікт з беларускімі сацыялістамі.

*(Заканч. на ст. 4.)*

*Сымон Барыс*

## Гістарычныя ўрокі для беларусаў

(*Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.*)

6. Беларускія нацыянал-камуністы (А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі), магчыма, зрабілі становічы крок, калі пайшлі на пагадненне з расійскімі бальшавікамі дзеля стварэння ССРБ, якая ў 1922 г. атрымала назву БССР і ўвайшла ў склад СССР на правах саюзнай рэспублікі. У выніку мы сёння маем пакуль што незалежную дзяржаву. Аднак іх учынак быў самаахвярны, бо ўсе яны былі знішчаны ў савецкі час або закончылі сваё жыццё самагубствам.

7. Беларусы не зрабілі належныя высновы са сваёй гісторыі. Яны больш спадзяюцца на суседнія дзяржавы, чым на сябе. Калабарацыя і зайздрасць ды ўласныя амбіцыі паставілі сёння нашу кволую дзяржаўнасць і лёс беларускага народа як самастойнай нацыі ў будучыні пад вялікае сумненне. І вінавата ў гэтым уся беларуская інтэлігенцыя, яе пасіўнасць, што ідзе ад бацькоў-сялян. Інтэлігенцыя на Беларусі раз'яднана. Адныя, як тыя сяляне, жывуць па прынцыпе "мая хата з краю і я нічога не ведаю", а актывісты (тыя, хто ў апазіцыі) дзеляць пустыя партыйныя партфелі без пасад. За апошнія гады колькасць партый скарацілася з 37 да 15, але ўсё роўна гэта зашмат, бо некаторыя з іх, нібы блізняты. Пра іх народ нават не ведае. І калі застанецца дзве або тры партыі, будзе болей карысці і для народа, і для нашай дзяржавы. І толькі тады, калі іх прадстаўнікі на сапраўдных выбарах трапяць у беларускі парламент і там яны будуць спрачацца, а не на вуліцах гарадоў, можна будзе гаварыць, што ў нас існуе дэмакратыя.

Сёння перад беларускай інтэлігенцыяй і актывістамі апазіцыйных партый стаіць галоўная задача - згуртавацца і ўтварыць выканаўча-каардынуючы орган (надпартыйны) з мэтай ажыццяўлення ідэалаў 25 сакавіка 1918 г. і Акта незалежнасці, прынятага Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 г. Калі ж пануючая ўлада і дэмакратычная апазіцыя не знойдуць паміж сабой паразумення, дык тады тут не будзе аніякай беларускай улады, зноў утворыцца Северо-Западный край. Калі няма беларускай мовы і страчана нацыянальная спадчына, тады і няма беларускай нацыі. І ў такім выпадку сучасную ўладу не выратуюць беларускія вышыванкі. Згадзіцеся, што Саюзная дзяржава - гэта паўтарэнне Люблінскай уніі (інакш Маскоўская унія, падпісаная без згоды беларускага народа). Аб якой незалежнасці мы можам гаварыць, калі ў нас няма ўсходняй дзяржаўнай мяжы!? Гісторыя, як бачыце, развіваецца па спіралі і шмат чаго ў ёй паўтараецца. Іншы раз яна вагаецца, як маятнік, што назіралася ў развіцці СССР. З вывучэння гісторыі, якую мы кепска ведаем, трэба рабіць высновы. Пакуль у гэтым мы зусім не спазніліся. У згодзе і згуртаванні нашай інтэлігенцыі - паратунак беларускай нацыі, яе дзяржаўнасці. Уздымем нацыянальную свядомасць і ўратуйма незалежную Беларусь! Выратуйма нашу дзяржаву - адродзім і мову. Зычу ўсім беларусам поспехаў у змаганні за вольную Беларусь. Лічу, што ва ўсіх беларускіх гарадах павінны быць беларускія, рускія, польскія і яўрэйскія сярэднія школы, калі ёсць такая патрэба. Мы можам зычліва прывітаць сваіх суседзяў: расіян - "Да здравствует Великая Россія!", палякаў - "Яшчэ Польска не згінэла!", украінцаў - "Шчэ не вмерла Украіна!" Спадзяюся, што і нашы суседзі нам скажуць ад шчырага сэрца: "Няхай жыве Беларусь!" А мы адкажам: "Жыве вечна!". Хай гэтыя нацыянальныя клічы-ідэі не раз'ядноўваюць суседзяў, а зბліжаюць.

# Аналітык са шляхетным еўрапейскім поглядам на музыку

На другім Велікодным тыдні з асаблівым святлом і дабрынёй мы ўспамінаем усіх нашых адышоўшых родных і калег. Ужо не раз прыходзілася адчуваць, узгадваючы спачылых літаратараў і сяброў, што пасля свайго адыходу, як і пры жыцці, яны збіраюць вакол сябе і з'ядноўваюць людзей, пакідаючы нам цяпло. Гэта цяпло застаецца ў выглядзе кніг, артыкулаў, вершаў і дзённікаў, яно перадаецца праз шчодры пачастунак, якім дзеляцца іх родныя.

22 красавіка прыйшла гадавіна адыходу вядомага журналіста і музычнага крытыка, сябра клуба "Спадчына", актыўнага сябра ТБМ і пастаяннага аўтара газеты "Наша слова", карэспандэнта "Новага часу" Анатоля Мітрафанавіча Мяльгуя (1957 - 2017). Спадар Анатоль быў адным з самых вядомых сучасных беларускіх музычных крытыкаў і аўтарам вялікай колькасці рэцэнзій і публікацый на музычную тэму, якія ён друкаваў у "Музычнай газеце", "Звяздзе", "Нашай Ніве", "Свабодзе" і ў газеце "Беларус", на інтэрнэт-партале " Тузін гітоў".

Анатоль Мяльгуй скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у 1989 годзе. З 1982 года ён быў пазаштатным карэспандэнтам "Чырвонай змены", адным з вядучых музычнай старонкі "Нотны аркуш". У 1985 ён стаў пераможцам І Усесаюзнага конкурсу знаўцаў рок-музыкі, што наладзіў часопіс "Студенческий меридиан" (Масква). У гэтым жа годзе быў абраны старшынём першага беларускага рок-клуба "Няміга" у Менску. Ён удзельнічаў у арганізацыі беларускамоўных фэстаў "Тры колеры-І" (калі ўпершыню на вялікую сцэну выйшлі гурты "Бонда", "Магістрат", "Мінск", 1986) і "Тры колеры-ІІ", выступаў як член журы на фестывалі "Lithuanica" (1986).





Спадар Анатоль разам з В. Мартыненкам

падрыхтаваў да друку кнігу "Праз рок-прызму" (1989, New York), а таксама "222 альбомы беларускага року і ня толькі" (2006, Мінск), быў аўтарам шэрагу ўступных артыкулаў да выданняў Беларускай музычнай альтэрнатывы. Яго рэцэнзіям быў уласцівы глыбокі прафесійны падыход, шанаванне беларускай культурнай адметнасці і шляхетны еўрапейскі погляд на з'явы ў айчыннай музыцы.




Гэтымі днямі мы сустрэліся з яго сынам Станіславам Мяльгуем. Як і яго тата, ён любіць вандраваць, пабываў шмат дзе ў Еўропе і Азіі.

Высокі, рамантычны Станіслаў успамінае: "Я заўсёды ганарыўся сваім бацькам. Мне здавалася, што ні ў кога такога бацькі няма! У нас заўсёды было шмат беларускіх дыскаў і касет. Мне падабалася запрашаць сваіх сяброў, паказваць ім усю калекцыю і казаць, што ў мяне такі класны тата, які ведае Лявона Вольскага, Ігара Варашкевіча і іншых. Ён браў мяне на канцэрты. Я памятаю прэзентацыю "Трох чарапах" у КЗ "Мінск".

Самым запамінальным быў для мяне момант,калі амбасадар Чэхіі ўзнагароджваў удзельнікаў клуба "Спадчына" медалём Чэшскай рэспублікі, а сярод іх - і майго бацьку за ўклад у развіццё беларуска-чэшскіх адносін. Гэта мяне вельмі ўразіла.

Па выходных з раніцы ён праглядаў "Парад беларускамоўных кліпаў", запісваў розныя праграмы, вёў свой музычны блог і захоўваў фотаархіў. Днём ён пісаў і друкаваў свае матэрыялы. Да ўсіх музычных аглядаў ён падыходзіў вельмі прафесійна. Ён часта раіўся са мной. Мне пашанцавала, што ў нас з бацькам былі сяброўскія адносіны. Мы маглі размаўляць на ўсе тэмы.

У нас захавалася шмат здымкаў з часоў далічбавых фотаапаратаў. У мяне застаўся яго здымач. Некалькі гадоў таму мы пісалі з бацькам на сядзібе ТБМ усеагульную беларускую дыктоўку. Я захаваў на памяць гэты аркуш. Ад бацькі засталася вялікая бібліятэка, і я збіраюся яе ўпарадкаваць.Там зборы твораў Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, Біблія, кнігі па філасофіі. Мне хацелася б калі-небудзь усё прачытаць. Пасля заканчэння журфака тата паступіў на філасофскі факультэт і правучыўся адзін год. Але ў яго ўжо была сям'я і ён вырашыў сысці. Ён быў адказным чалавекам. Для таты лепшым паходам было пайсці ў лес, падыхаць свежым паветрам, схадзіць у грыбы."

***Э. Дзвінская.***

На здымках: Анатоль Мяльгуй.





# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў траўні

Абрамовіч Маргарыта Паўл.
Абухоўскі Юры
Адамковіч Аляксандр Эдмун.
Азарка Вольга Уадзіміраўна
Акуленка Міхаіл
Александровіч Разалія Адам.
Алесіна Таццяна Міхайлаўна
Аляшчэня Мікалай Мікалаев.
Анапрыенка Ірына
Анішчык Барыс Вітальевіч
Апалька Жанна Віктараўна
Арлоў Валянцін Мікалаевіч
Аскерка Зміцер
Астахновіч Андрэй Казіміравіч
Астроўская Аксана Барысаўна
Аўсейка Канстанцін
Бабіч Юры Міхайлавіч
Багданчык Зміцер Віктаравіч
Бакшун Валянціна
Баланчук Эдуард Мікалаевіч
Баранік Міхась Антонавіч
Баркун Юры Васільевіч
Бародзіч Сямён Дзмітрыевіч
Баронік Міхал Антонавіч
Бароўскі Анатоль Мікалаевіч
Барыс Сымон Вікенцевіч
Бахун Сяргей Пятровіч
Белавокая Наталля
Бельскі Аляксандр Міхайлавіч
Богуш Святлана Яўгенаўна
Бордак Уладзімір Адамавіч
Боўжык Аляксандр Сцяпан.
Брыцько Уладзімір
Буднік Янка Фёдаравіч
Буз Андрэй Віктаравіч
Буката Людміла Аляксандр.
Буката Надзея Эдвардаўна
Бурдыка Дзмітры Анатольевіч
Бутэнка Зміцер Сямёнавіч
Быкава Надзея Мартынаўна
Быстранкова Таіса Вікенцеўна
Бяйдук Наталля
Вайцэховіч А.Р.
Валіцкая Іна
Валошчык Мікола Антонавіч
Валчок Ліля
Вараб'ёў Уладзімір Раманавіч
Варонін Улас Канстанцінавіч
Васілеўская Кацярына
Васільева Кацярына
Васільчук Іван Дзмітрыевіч
Вaўчок Крысціна
Вішнеўская Дар'я Дзмітрыеўна
Галубовіч Вольга
Галустаў Эдуард
Ганчарык Марыя Яраславаўна
Гарбачэўскі Васіль
Гаўрыленка Юлія Міхайлаўна
Гладкі Леанід Анатольевіч
Глямбоцкая Рэната Аляксанд.
Гнеўка Анатоль Лявонавіч
Гоўша Уладзімір Міхайлавіч
Грудзіна Аляксандр Пятровіч
Грумо Зміцер
Грышкевіч Кірыла Уладзімір.
Гундар Уладзімір Тадэвуш.
Гуркоў Ігнат Дамінік Аляксан.
Гусак Станіслаў Рыгоравіч
Давыдзік Кацярына Канстанц.
Дайлідзёнак Крысціна Васіл.
Даніловіч Раіса
Дзмітрыеў Андрэй Уладзімір.
Дзяконскі Аляксандр Алякс.
Драўніцкая К.М.
Дрозд Галіна
Дубейка Ірына Восіпаўна
Дубовік Іосіф Вацлававіч
Думанскі Аляксандр
Жабінская Марыя Пятроўна
Жолуд Эдуард Васільевіч
Жукава Вікторыя Паўлаўна
Жукоўская Таццяна Яўгенаўна
Жураўлёва Таццяна Сяргееўна
Жураўскі Уладзімір Мікал.
Жылач Таццяна Міхайлаўна
Зайцаў Андрэй Мікалаевіч
Іванова Анфіса Міхайлаўна
Іода Тамара Мікалаеўна
Ісайкіна Вольга Юр'еўна
Кабылка Віталь
Кавалавіч Мікалай Антонавіч
Кавалёў Станіслаў Аляксанд.
Кавальчук Галіна Тадэвуш.
Кавальчук Ігар Аляксандравіч
Кавальчук Часлаў Францавіч
Казакевіч Юры Іосіфавіч
Калакольцава Аліна
Калацкая Вольга
Калеснікава Алена Уладзімір.
Калінін Вальдэмар
Каляда Ніна Фёдараўна
Камандзірчык Алесь Аляксан.
Камко Наталля Юр'еўна
Кампанеец Святлана Юр'еўна
Кандракоў Міхаіл Валер'евіч
Кандратовіч Ігар
Кандратовіч Ян Янавіч
Кандрацьеў Андрэй Васільевіч
Карабач Алег Віктаравіч
Карнееў Віктар Васільевіч
Карнілава Наталля Яўгенаўна
Кароль Маргарыта Міхайл.
Карпінская Юлія
Карповіч Андрэй Іванавіч
Карцель Настасся
Касавец Іван Язэпавіч
Касцюк Георгі Васільевіч
Касцюкевіч Зміцер Станіслав.
Каўлярова Т. М.
Клуйша Яніна Іосіфаўна
Кляшторная Майя Тодараўна
Корзан Сцяпан Уладзіміравіч
Корзан Уладзімір Сцяпанавіч
Корзан Яніна Браніславаўна
Кот Алена
Коўган Сяргей Яўгенавіч
Кравец Дзмітры Юр'евіч
Красоўская Ганна Казіміраўна
Крук Віктар Фёдаравіч
Круцікаў Уладзімір Уладзім.
Кручкоў Сяргей Мікалаевіч
Кудзякін Віталь Пятровіч
Кудрашоў Віктар
Кузьміч Таццяна Адамаўна
Кульбянкова Іна
Лабачоў Яўген Дзмітрыевіч
Лагун Вольга Эдвардаўна
Лапо Аляксандр Іванавіч
Латоцін Лявон Аляксандравіч
Лаўранцова Алена Уладзімір.
Лебедзева Наталля Мікалаеўна
Леўчанкаў Васіль Мікалаевіч
Леўшык Станіслаў Станіслав.
Лук'янцаў Кірыла
Лытнёў Міхаіл
Люмарова Галіна Сяргееўна
Ляскоўская Зоя Нікіфараўна
Майсеня Людміла Іосіфаўна
Макарскі Андрэй Георгіевіч
Макарчык Уладзімір
Макрыцкая Таццяна Міхайл.
Максімчук Раман Уладзімір.
Малашчанка Таццяна Сярг.
Маліноўскі Яўген Лявонцевіч
Малышава Галіна
Малько Пётр Іванавіч
Мальцава Ганна Валянцінаўна
Марцінкевіч Яўгенія
Мацвеева Таццяна Генадзьеўна
Мацвееў Максім Іванавіч
Мекшыла Мікалай
Мех Аляксандр Васільевіч
Міхно Міхаіл Васільевіч
Міхноўскі Мікалай Уладзімір.
Міцкевіч Кастусь
Міцкевіч Яўген Фаміч
Моніч Алесь
Мурашка Людміла Мікал.
Муха Валянцін Станіслававіч
Мяснянкіна Ала Міхайлаўна
Навасельская Таццяна Уладз.
Нагорная Тамара Іванаўна
Нароўская Ала Мікалаеўна
Нарушэвіч Міхаіл Алегавіч
Натынчык Уладзімір Алякс.
Ніжанкоўская Ірына Уладзісл.
Нікіпорчык Віктар
Новікаў Аляксандр Сяргеевіч
Отчык Андрэй
Падгайская Людміла Лаўрэнц.
Палітава Дзіяна Паўлаўна
Панізнік Сяргей Сцяпанавіч
Паплаўская Ірына Станісл.
Паўлініч Валеры Валерыевіч
Паўловіч Віктар Сяргеевіч
Паўтаржыцкі Канстанцін Бран.
Пашкевіч Ігар
Пералыгін Алесь
Пожанька Ігар Леанідавіч
Пратасавіцкая Марыя Георг.
Праташчык Людміла Віктар.
Праўдзін Віктар Аляксандр.
Пуцікаў Ілля
Пушкін Ігар Аляксандравіч
Пыжык Аляксей
Пясецкая Таццяна Уладзімір.
Пяткевіч Таццяна Віктараўна
Пятрашка Майя
Пятроўскі Віктар Вячаслав.
Рагачоў Юры Усеваладавіч
Радзюк Алена Іванаўна
Радзюк Уладзімір Сяргеевіч
Разумейчык Юры Васільевіч
Рачэўскі Станіслаў Рыгоравіч
Рубанік Таццяна
Руды Аляксей Уладзіміравіч
Руткевіч Вераніка Антонаўна
Рухлова Тамара
Рымша Фаіна Ціханаўна
Сабуць Галіна Эдмундаўна
Савук Аляксандр Юр'евіч
Салаўёў Зміцер Сяргеевіч
Салговіч Вольга Віктараўны
Салодкі Юры Часлававіч
Самасюк Ганна
Самойленка Арцём Сяргеевіч
Серакова Вольга Канстанцін.
Сердзюкова Марыя Васіл.
Сідар Маргарыта
Сідаровіч Яніна Дзмітраўна
Сілкова Раіса Іванаўна
Сільвановіч Станіслаў Алеўз.
Сіўко Франц Іванавіч
Смалянчук Аляксандр Фёдар.
Снітко Вольга Уладзіміраўна
Снітко Галіна Мікалаеўна
Станевіч Тамара Іосіфаўна
Станевіч Юры
Сташэўскі Яўген Адамавіч
Строкач Аляксандр Пятровіч
Стукаў Віктар Якаўлевіч
Сцефановіч Рамуальд
Сяліцкая Рыта
Талкачыкава Кацярына Ал.
Таневіч Галіна Янаўна
Тарасенка Уладзімір Мікал.
Трахімчык Уладзімір Іванавіч
Тырсін Васіль Анатольевіч
Тышкевіч Галіна Францаўна
Фадзеева Таццяна Мікалаеўна
Харанека Святлана Станісл.
Харланчук Аляксандр Анат.
Хатара Мацвей Леанідавіч
Хвайніцкі Часлаў Сіманавіч
Хітрун Ілья Андрэевіч
Холеў Станіслаў Браніслававіч
Хоміч Генадзь Рыгоравіч
Храмлюк Марыя Іосіфаўна
Цаўлоўскі Канстанцін Дзмітр.
Церпугова Алена Фёдараўна
Цітоў Леанід Сцяпанавіч
Цюрын Аляксей Сяргеевіч
Цялюк Мікалай Алегавіч
Чарнышова Алена Аляксанд.
Чухліб Наталля
Чучвага Наталля Мікалаеўна
Чхаідзэ Георгі
Чэчат Віктар Аляксандравіч
Шабуня Ніна
Шавель Вольга Мікалаеўна
Шантар Дзіяна Георгіеўна
Шапуцька Віктар Аляксанд.
Шарах Мікола Аркадзевіч
Шароў Георгі Іванавіч
Шарыпкін Генадзь Леанідавіч
Шаўкера Алег
Шахаб Дар'ян
Шахмуць Ніна Іванаўна
Шашытайшвілі Марыя Уладз.
Шкірманкоў Фелікс Уладзім.
Шошын Руслан Алегавіч
Шупенька Ірына Аляксандр.
Шуткін Сяргей Сяргеевіч
Шчарбіна Святлана
Шчэрба Святлана Мікалаеўна
Шык Кірыл Іванавіч
Шыла Уладзімір Аляксандр.
Шыманіца Ала Іванаўна
Шышкавец Ала Аркадзеўна
Юрэвіч Генрых Іосіфавіч
Язвінскі Артур Аляксандр.
Якубчык Генрых
Яніцкая Мая Міхайлаўна
Ярмалінская Ніна Адамаўна
Ярохаў Уладзімір Пятровіч
Яфімчык Генадзь Генадзьевіч
Яцыновіч Святлана

# У Кішынёве адкрылі помнік Францішку Скарыну



У Кішынёве ўрачыста адкрыты бюст беларускага першадрукара і асветніка Францішка Скарыны. Помнік аўтарства менскага скульптара Геніка Лойкі ўстаноўлены ў скверы побач з амбасадай Беларусі ў Малдове. Самога скульптара ў Малдову не запрасілі і з падзеяй не павіншавалі.

Як паведамляюць малдаўскія СМІ, у цырымоніі бралі ўдзел міністр адукацыі, культуры і даследаванняў Малдовы Моніка Бабук і яе беларускі калега Юры Бондар. Кіраўнік беларускага Мінкульту знаходзіўся ў Кішынёве ў складзе афіцыйнай дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.

Як піша малдаўскае агенцтва NOI, у сваім выступе Моніка Бабук адзначыла, што адкрыццё помніка Скарыну - гэта важная падзея, якая зробіць істотны ўнёсак ва ўмацаванне культурных сувязяў паміж Малдовай і Беларуссю.

У ліпені 2017 года Генік Лойка стаў пераможцам конкурсу эскізных праектаў на бюст Францішка Скарыны ў Кішынёве - ягоную заяўку прафесійнае журы прызнала найлепшай з дзясятка. Згодна з патрабаваннямі, кампазіцыйнае і пластычнае выкананне мусіла быць рэалізаванае "ў найлепшых традыцыях класічнага і нацыянальнага манументальнага мастацтва".



Спачатку на помнік з улікам матэрыялу меркавалася патраціць не больш за 150 тысяч рублёў. Аднак у працэсе суму зменшылі ў 10 разоў. Скульптар кажа, што збольшага задаволены працай, за выключэннем некаторых нюансаў. Галоўная прэтэнзія да напісання імя Скарыны. Згодна з умовамі конкурсу, як сцвярджаюць арганізатары, на помніку павінен значыцца "Францыск", Лойка ж настойваў на "Францішку". Адстаяць свой варыянт яму не ўдалося.

Выдаткі на распрацоўку праектнай дакументацыі, выкананне, мантаж бюста, а таксама добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі былі пакрытыя з бюджэту Беларусі.

*Ігар Карней.*

# Баранавіцкія актывісты ТБМ зладзілі талаку ля крыжа ахвярам рэпрэсій

18 красавіка Баранавіцкія актывісты Таварыства беларускай мовы арганізавалі традыцыйную талаку па прыборцы тэрыторыі ля крыжа ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Менавіта дэмакратычная грамадскасць Баранавіч трымае ў парадку тэрыторыю ля крыжа з надпісам "Ахвярам гвалту 1939-1953", кажа старшыня Таварыства Мікалай Падгайскі:

- Мы, як звычайна вясной, прыбралі лісце, падмялі, ускапалі зямельку прывезлі многа кветак, пасадзілі дадатковых да таго, што там было.




Памаліліся, быў айцец Яўген, так што ўсё ў парадку.

Паводле Мікалая Падгайскага, радуе тое, што сёлета да талакі далучыўся баранавіцкі жыхар, які прапанаваў сваю дапамогу, калі ішоў міма крыжа пакут. Вялікі крыж-помнік ахвярам сталінскім рэпрэсій быў усталяваны актывістамі ў цэнтры Баранавічаў у 1992 годзе. Аднак потым КДБ уначы патаемна перавёз яго на тэрыторыю былой турмы "Крывое кола", у якой НКВДшнікі расстралялі некалькі тысяч чалавек.

*Беларускае Радыё Рацыя.*

# Успаміны Юльяна Грымайлы-Прыбыткі[1]

# З успамінаў пра 1863 г.

***Ад перакладчыка***

**Юльян Грымайла-Прыбытка** на пачатку XX ст. закончыў Рыжскую палітэхніку, да 1914 г. працаваў на пасадах чыноўніка рознага ўзроўню ў Лідскім павеце. У 1920-30 гг. - суддзя. Ягоны сын - Антон Грымайла-Прыбытка, неаднаразова выбіраўся ў Гарадскую раду, быў лаўнікам Магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам.

Міхал Шымялевіч пісаў у рукапісе пра высяленне лідзян у Казахстан у 1940 г.: *"Вёска Краснапяроўка (у Казахстане). (*Сярод ссыльных - *Л.Л.) Прыбытка Анна (1905 г.н.) з дачкой Данутай (1925 г.н.) і Ванда (?). (Анна) жонка (*пэўна, другая жонка - *Л.Л.) уладальніка маёнтка Кажамякі гміны Новы Двор, сына генерал-маёра Аляксандра Прыбыткі, Прыбыткі Юльяна, 1883 г.н., віца-старшыні Лідскага аддзела Віленскага акруговага суда. Быў арыштаваны ў 1939 г. і хутка памёр у турме ..."* [2].

*Друкуем вельмі цікавыя ўспаміны аб студэнцкім паўстанні ў Лідскім павеце, напісаныя прэзідэнтам Юбілейнага камітэта па ўшанаванні памяці Людвіка Нарбута, суддзём Юльянам Прыбыткам* - (Тэкст рэдактара "Лідскай зямлі" Абрамовіча - *Л.Л.*).

Маё "сельскае-анёльскае" дзяцінства прыпала на эпоху, калі яшчэ ўспаміны з 1863 г. жылі ў памяці сваякоў, жыў рамантызм безнадзейнага змагання і высокае натхненне. Тыя падзеі былі грунтам, на якім мы, малыя слухачы ўспамінаў старэйшых людзей, выхоўвалі свае пачуцці і свой патрыятызм.

Памятаю тыя цікавыя хвіліны, калі я са сваім братам, с.п.[3] Эмілем зімовым вечарам слухалі аповяды нашай бабкі с.п. Стэфаніі Паплаўскай з Шалевічаў, удавы па Юльяне Паплаўскім, уладальніку Кажамякаў, Ваўчынак і Капцюхоў у Лідскім павеце і чальцы Паўстанцкага камітэта Лідчыны, а таксама с.п. Паплаўскага Пятра, сябра маладых гадоў майго дзеда Юльяна, ветэрана паўстання 1863 г. Карбоўскі[4] ў сваёй працы пра Нарбута памылкова называе Уладзіміра Паплаўскага сябрам Камітэта - Уладзімір Паплаўскі (герба Дрэвіца) быў братам Пятра і, думаю, не быў чальцом Камітэта, а быў (ведаю гэта пэўна), дзясятнікам у аддзеле Людвіка Нарбута - казаў мне пра гэта яго брат Пётр, а спалучэнне гэтых дзвюх функцый было немагчыма.

Уладзімір паходзіў з фальварка Крэвін Сабакінскай гміны, меў маці з Гофманаў і, калі не памыляюся, пераважна жыў у Капцюхах, дзе дапамагаў па гаспадарцы свайму сябру і аднакашніку Юльяну Паплаўскаму (герба Траска), які нават не быў яго сваяком. Менавіта з Капцюхоў Уладзімір Паплаўскі і пайшоў у паўстанне. Верагодна, таму Карбоўскі і палічыў яго ўладальнікам Капцюхоў і чальцомм Паўстанцкага камітэта. Уладзімір Паплаўскі загінуў пад Дубічамі, а Пятра, закатаванага самым гвалтоўным чынам маскалямі пад Ганэлькамі, ледзь не засыпалі ў агульнай магіле з палеглымі паўстанцамі, але сяляне, якім даручылі гэтую справу, заўважылі, што паўстанец жывы і адвезлі ў блізкія Сабакінцы, да ягонага крэўнага Цыпрыяна Шалевіча, дзе ў сховішчы ён неяк залячыў свае раны. Сасланы быў потым на Каўказ, дзякуючы стараннямі маёй бабкі, пасля маніфеста вярнуўся дахаты. С.п. Пётр Паплаўскі быў чалавекам небывалага гарту: не раз, пасля маіх просьбаў (я быў дзевяцігадовым хлопцам), паказваў мне свае шнары ад ранаў, а меў іх 17, бо жаўнеры, раз'юшаныя ягоным адпорам, некалькі разоў падкідвалі яго на багнетах[5]. Адна куля патрапіла яму ў нагу, рана зажыла і бядак хадзіў з гэтай куляй, нават не надта яе адчуваючы. Толькі падчас непагоды давалася гэта куля яму ў знакі.

Мая маці апавядала, што ў дзяцінстве аднойчы "Пан Пётр" (так звыкла яго называла) не прыйшоў у прызначаны час на абед, і таму наша бабуля накіравала яе ў афіцыну[6], у якой "Пан Пётр" жыў, каб паклікаць яго да стала. Дрэмна мая маці грукала ў дзверы - у хаце было ціха. Калі ж яна зазірнула ў акно пакоя паўстанца, дык убачыла наступнае: "Пан Пётр" сядзеў на лаве з аголенай нагой і заўзята калупаў сцізорыкам у тым месцы, дзе была куля. На падлозе стаяла мядніца[7] з крывёю і кубак з вадой, а каля яго ляжаў кавалак чыстай тканіны. "Пан Пётр" папрасіў, каб абед прынеслі да яго, і вынікова скончыў аперацыю - праз хвіліну здабыў кулю і забінтаваў нагу. "Пан Пётр" трыумфаваў, кажучы, што ён - сам для сябе самы лепшы хірург. Такія гэта былі людзі.

Мой дзед, Юльян Паплаўскі, як чалец Камітэта, забяспечваў паўстанцкі аддзел. Бабуля мне расказвала, што ён неяк загадаў, каб яна разам з паннамі і дзяўчатамі-служкамі, якім можна давяраць, пашыла 200 кашуль для паўстанцаў. З-за перасцярогі праца кіпела пераважна ўначы, Праз некалькі дзён мой дзед вярнуўся з тайнага паседжання Камітэта і запытаў бабулю аб кашулях.

- Ужо адаслала, -кажа яна. - І каб нашы дарагія ваяры бачылі, каму яны павінны быць удзячныя за такія якасныя кашулі, унізе кожнай з іх вышыты твае ініцыялы.

Дзед схапіўся за галаву.

- Але ж, Стэфця, калі пасля бітвы на палеглых ці параненых знойдуць кашулі з маімі ініцыяламі, стане вядома, хто іх шыў, што я сябар Камітэта і падтрымліваю паўстанцаў.

Мая збянтэжаная бабуля, зразумеўшы сваю памылку, адразу выслала да паўстанцаў служку з ножыкам. Служка дагнаў воз, які вёз прыпасы і кашулі для паўстанцаў ужо на самым ускрайку Гарадзенскай пушчы. Ён зрэзаў ініцыялы майго дзеда з кашуль. Аднак гэта не дапамагло, і праз некалькі месяцаў чуйны прыстаў з Васілішак[8] арыштаваў майго дзеда. Пад эскортам казакоў яго выслалі да Вільні і пасадзілі ў турму, якая месцілася ў пакляшторных мурах пры касцёле Св. Пятра і Паўла. Мая бабуля, ведаючы пра важкасць "мамоны" для чыноўнікаў тых часоў, адусюль здабыла грошы, узяла з сабой усе сямейныя ўпрыгожванні і паехала ў Вільню. А быў гэта цяжкі шлях, трэба было з Капцюхоў, дзе жылі мае дзяды, праз Ліду коньмі ехаць у Вільню - 120 вёрст[9]. Бабуля Паплаўская наведала ў Лідзе ваеннага начальніка павета, узяла неабходныя паперы і паехала з імі ў Вільню. Яе затрымлівалі шматлікія пасты, на якіх па загаду ўладаў дзяжурылі сяляне з жаўнерамі, але яна пераадолела ўсе перашкоды і нарэшце прыехала ў Вільню. Каб пабачыцца з мужам, кожны дзень узыходзіла на ўзгорак каля касцёла Св. Пятра і Паўла і там чакала да часу, пакуль яе не ўбачыць муж. З гэтага ўзгорка мая бабуля "на мігі" дамаўлялася з дзедам. Адзін раз гэтыя нямыя размовы заўважыў ахоўнік, прыбег на ўзгорак і так моцна выцяў бядачку прыкладам свайго карабіна, што тая ўпала і пакацілася з узгорка. Можна сабе ўявіць боль і крыўду мужа, які бачыў гэтую сцэну, бо акрамя ўсяго іншага, бабуля была цяжарная. Гэта ўбачыў адзін расійскі генерал з балкона дома (зараз, калі не памыляюся, гэта дом Кукеля), ён абурыўся, прыбег да бабулі, падняў яе і папрасіў прабачэння за такія паводзіны. Вось у такіх умовах мая бабуля ратавала мужа.

Раздала яна не толькі ўсе наяўныя грошы, але і усе ўпрыгожванні. Дапамагаў ёй ваенны начальнік нашага павета палкоўнік Алхазаў[10], які, аднак, дапамагаў не з-за рыцарскіх пачуццяў, а таму, што вельмі любіў грошы і ўвесь час патрабаваў усё новыя сумы (пра гэта таксама піша і Зоф'я Кавалеўская ў сваіх "Успамінах"). Уся судовая перапіска і доказы па справе Юльяна Паплаўскага былі арганізаваныя такім чынам, што знаходзіліся ў руках Алхазава. Мая бабуля была ім выклікана ў Ліду і поўны галантнасці Алхазаў на яе вачах ўсе доказы віны дзеда і ягоныя лісты кінуў у агонь каміна. Гэтым тлумачыцца скупая інфармацыя ў архівах аб "преступной деятельности" у 1863 г. майго дзеда па кудзелі, с.п. Юльяна Крулевіч-Паплаўскага. І дзіўная рэч - праз некалькі дзясяткаў гадоў мая бабуля атрымала з Парыжа ананімную пасылку, у якой знаходзілася частка ўсунутых ёю "ў лапу" ўпрыгожванняў. Багаты залаты гадзіннік, старажытны, вельмі дарагі пярсцёнак з вялікім дыяментам (памяць пра падкаморага Томаша Паплаўскага) і г.д. Да пасылкі быў далучаны ліст, дзе тлумачылася, што каштоўнасці прызначаюцца таму, каго бабуля ў тыя цяжкія часы насіла ў сваім улонні (с.п. Юзафа Паплаўскага, брата маёй нябожчыцы маці). Ратуючы дзеда, бабуля не памятала, каму перадала гэтыя каштоўнасці, бо шмат чаго рабіла праз пасярэднікаў.

У гэтых аповедах, якія так глыбока ўвайшлі ў нашу свядомасць, словы *прыстаў, жандар, казак* - мелі такі прысмак, што калі прыстаў ці жандар прыязджаў у дом нават з нейкай нейтральнай мэтай, нас апаноўвала дзіўнае пачуццё ці то страху, ці то нейкай глыбіннай агіды, і таму мы, дзеці, не маглі заставацца ў пакоі, дзе яны знаходзіліся і таму аглядалі іх са схованкі і рэзка высмейвалі "ворага", пачынаючы ад ботаў і канчаючы барадой ці "кудламі" на галаве. Калі мой бацька[11], які з-за яго чыну павінен быў прымаць ў сваім доме губернатара ці вышэйшых чыноўнікаў і вайскоўцаў, гэта не абыходзілася без прыліву апазіцыйнасці ў маіх настроях.

Аднаго разу ў салоне элегантны і добра выхаваны казацкі есавул, каб пацалаваць "славного мальчика", злавіў мяне і пасадзіў на калені. Я па шырокіх шараварах і лампасах на іх зразумеў, што гэта казак і з незвычайнай энергіяй стаў бараніцца ад "ворага", чырвоны як рак з абурэннем і гвалтам вырваўся з ягоных рук і ўцёк з салона.

А постаць Людвіка Нарбута вырасла ў нашых вачах да легендарных памераў. Нарбут - герой, якога дзядуля, бабуля і "Пан Пётр" так добра ведалі, вельмі шмат для нас значылі.

- Бабуля, мамуся, "Пан Пётр", раскажыце пра Людвіка Нарбута!

І гэтак было без канца.

*Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

---

[1] Julian Grzymala-Przybytko. Ze wspomnien o 1863 // Ziemia Lidzka №5-6-1938. S. 59-60.

[2] Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu lidzkiego // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolinskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 60.

[3] Святой памяці.

[4] Karbowski W. Ludwik Narbutt. Zyciorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. 1935.

[5] Верагодна, менавіта Пятра Паплаўскага ўзгадваў Вандалін Шукевіч у сваіх мемуарах.

[6] Флігель.

[7] Медны таз.

[8] Васілішскі прыстаў у той час - адстаўны шт.-капітан Карл Станіслававіч Вітунскі - Гл.: Памятная книжка Виленской губернии. Вильно, 1863. С.122.

[9] У краі было ваеннае становішча і вандраваць тут было вельмі цяжка і нават небяспечна. Гэта сітуацыя добра адлюстравана ў прашэнні адстаўнога рускага падпаручніка Міхаіла Васільевіча Страескі на імя Мураўёва ад 29 лістапада 1863 г., якое збераглося ў паперах былога набліжанага да Мураўёва ў Вільні афіцэра Чарэвіна (у час задушэння паўстання 1863 г. Пётр Чарэвін палкоўнік, потым генерал-лейтэнант, таварыш міністра ўнутраных спраў і шэфа жандараў, набліжаны імператара Аляксандра III). Страеска ехаў з Бесарабіі ў Пецярбург праз Беларусь і зазнаў шмат грубасцяў і здзекаў - спачатку ў Пінску, а пасля ў Лідзе - ад вайсковых начальнікаў Ліды і Пінска і п'яных рускіх жаўнераў. Адстаўны падпаручнік спачатку быў упэўнены, што рэжым, які ён бачыў на сваёй дарозе, усталяваны без ведама генерал-губернатара і парушае законы, таму, як чалавек чэсны і які жадае дабра Расіі, ён напісаў рапарт да генерал-губернатара. Пра тое, што бачыў на Лідчыне, Страеска пісаў*: "Калі сп. Алхазаў (лідскі ваенны начальнік - Л.Л.) абыходзіўся са мною так, ... непалякам, маючы перад вачыма 5-6 дакументаў - сведчанняў пра маю асобу, то чаго пасля гэтага можна чакаць ад яго нягшчаснаму паляку? Панове Алхазавы [...] прымусяць іх кінуць усё і шукаць выратавання "do lasu". ... Паверце, Ваша Высокаправасхадзіцельства,* - піша далей Страеска, - *што ў войсках губерняў нельга ўгледзець прастадушнага, заўжды рахманага рускага салдата; грубасцю і жорсткасцю яны пераўзышлі там, магчыма, дзікія татарскія орды, што лютавалі некалі на Св. Русі. Калі б да Вас маглі даходзіць стогны і скаргі прыгнечаных варварствам нашага хрысталюбнага воінства, Вы, напэўна, з жахам адмовіліся б ад такіх паплечнікаў"*. Цыт. па: Чарэвін Пётр. Паўночна-Заходні край" (Успаміны) // Спадчына № 3-1998. С. 31-64.

[10] Якаў Кайхосравіч Алхазаў (Алхазішвілі, 1826-1896). Пасля заканчэння курса ў 2-м кадэцкім корпусе, Алхазаў 10 жніўня 1844 г. атрымаў чын прапаршчыка лейб-гвардыі Фінляндскага палка, 10 красавіка 1848 г. - падпаручніка. У тым жа годзе ўдзельнічаў у задушэнні паўстання ў Венгрыі.

6 снежня 1853 г. атрымаў чын штабс-капітана. Падчас Крымскай вайны знаходзіўся ў складзе войскаў, якія ахоўвалі ўзбярэжжы Пецярбургскай і Выбаргскім губерняў ад высадак саюзнага англа-французскага дэсанту. У мірныя час, ў 1856 г. атрымаў ордэн св. Станіслава 3-й ступені, у 1859 - ордэн св. Ганны 3-й ступені і ў 1861 - ордэн св. Станіслава 2-й ступені. 30 жніўня 1860 г. атрымаў чын капітана.

19 лютага 1863 г. стаў палкоўнікам, удзельнічаў у задушэнні паўстання 1863 г., быў вайсковым начальнікам Лідскага павета. У памяці лідзян застаўся жорсткім дэспатам і хабарнікам. За гэта ўзнагароджаны ордэнамі св. Уладзіміра 4-й ступені з мячамі і бантам, св. Ганны 2-й ступені з мячамі і імператарскай каронай і св. Уладзіміра 3-й ступені.

12 траўня 1864 г. Алхазаў быў прызначаны камандзірам 4-га пяхотнага Капорскага палка, 30 жніўня 1873 г. узведзены ў генерал-маёры і прызначаны камандзірам 2-й брыгады 19-й пяхотнай дывізіі на Каўказ. У 1876 г. атрымаў ордэн св. Станіслава 1-й ступені.

У руска-турэцкую вайну 1877-1878 гг. Алхазаў спачатку быў прызначаны начальнікам Кутаіскага атрада (12 красавіка 1877 г.), а потым злучаных Кутаіскага, Сухумскага, Інгурскага і Гурыйскага атрадаў, з якімі ўціхамірыў хваляванні сярод абхазцаў і прымусіў адступіць турэцкі дэсант; за гэта быў узнагароджаны ордэнам св. Георгія 4-й ступені.

13 снежня 1878 г. Алхазаў быў прызначаны начальнікам 41-й пяхотнай дывізіі, 27 лютага 1883 г. атрымаў у камандаванне Каўказскую грэнадзерскую дывізію, 6 ліпеня 1885 - 3-ці армейскі корпус і 30 жніўня 1891 г. стаў генералам ад інфантэрыі.

19 кастрычніка 1894 г. ён быў прызначаны членам Ваеннага савета. Памёр 3 лістапада 1896 г.

[11] Бацька - генерал-майор Аляксандр Тэлесфор Антон Прыбытка (сын Паўла), з 1891 г. у адстаўцы - Гл.: Malewski Czeslaw. Rody szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiat Lidzki. Wilno, 2005. S. 203.

*Навіны Германіі*

# Самыя прыгожыя аўтамабільныя маршруты Германіі

Ці падабаецца вам падарожнічаць на аўтамабілі? Тады садзіцеся хутчэй за руль і адпраўляйцеся ў вандроўку, якую вы даўно заслужылі. У Германіі вялікае мноства маляўнічых маршрутаў і тэматычных дарог, якія праходзяць праз маленькія вёсачкі, сярэднявечныя замкі і несапсаваныя цывілізацыяй пейзажы.

Папесціце сябе па дарозе любімымі стравамі і куфлем віна, знайдзіце начлег у адным са шматлікіх прыдарожных пансіёнаў. Знак Zimmer frei (вольныя нумары) паслужыць пропускам у свет традыцыйнай нямецкай гасціннасці.

Лепшымі тэматычнымі маршрутамі Германіі па праве лічацца: Рамантычная, Замкавая, Казачная і Вінная дарогі.



*Замкавая дарога вядзе да Нойшванштайн/ Фота: happytowander.com*

**Рамантычная дарога**

Абавязкова здзейсніце паездку ўздоўж рамантычнай дарогі, якая расцягнулася на 420 кіламетрам па тэрыторыі Баварыі. У рэчаіснасці, Romantische Strasse была прыдумана англамоўнымі турагентамі ў 50-х гадах, але ў наш час, яна прыцягвае наведвальнікаў з усяго свету.

Дарога бярэ пачатак у вінных раёнах Франконіі і вядзе да замка Нойшванштайн ля падножжа нямецкіх Альп.

Па дарозе вы зможаце палюбавацца баварскай прыродай, казачнымі гарадамі, абабітымі дрэвам хатамі, манастырамі і рамантычнымі заезнымі дварамі. Таксама не забудзьцеся наведаць Вюрцбург, Ротэнбург на Таўберы і замак-гасцініцу Кольмберг.



*Рамантычная дарога. tuttobaviera.it*

Не забывайце, што гэта адзін з самых папулярных маршрутаў і, асабліва ў летні час, там можа быць даволі шчыльны рух.

**Замкавая дарога**

Калі ў вас ёсць жаданне ўбачыць як мага больш замкаў у кароткі прамежак часу - едзьце ўздоўж Замкавай дарогі. Здзейсніце вандроўку назад у часе на маршруце ўздоўж якога размешчана больш за 70 палацаў і замкаў. Там вы знойдзеце ўсё: ад рамантычных развалін да маляўнічых замкаў-музеяў і нават замкаў-гатэляў.

Працягласць замкавай дарогі складае 1005 кіламетраў, складаецца яна з серыі невялікіх, звілістых дарог, абсталяваных добра чытанымі знакамі. Калі вы хочаце вывучыць маршрут да таго, як сядзеце за руль, існуе мноства інтэрнэт сайтаў на ўсіх мовах, з падрабязнай картай маршруту, уключаючы адлегласці паміж прамежкавымі пунктамі, замкамі і гарадамі.

Гэты маршрут пачынаецца ў Манхайме і ідзе да Прагі. Паколькі ўздоўж маршруту знаходзіцца велізарная колькасць славутасцяў, мы рэкамендуем загадзя абраць з іх абавязковыя для наведвання, а астатнімі любавацца з боку.



*Казачная дарога. auto-neva.ru*

**Казачная дарога**

Даследуйце краіну братоў Грым падарожнічаючы па Казачнай дарозе, што злучае месцы, якія натхнілі іх на напісанне самых вядомых казак; прагуляйцеся па лесе Чырвонага Каптурыка, наведаеце замак спячай прыгажуні і ўзлезьце на вежу з акна якой Рапунцель спускала свае валасы.

Дарога пачынаецца ў горадзе Ганаў, месцы нараджэння абодвух братоў, Якоба і Вільгельма; затым вядзе вас у Штайнаў, дзе яны выраслі і праз усе гарады дзе знакамітыя браты вучыліся і працавалі.

Практычна ва ўсіх гарадах на шляху праводзяцца розныя мерапрыемствы для сямейнага адпачынку: прадстаўленні лялечных тэатраў, парады, канцэрты і інсталяцыі любімых герояў казак. Асабліва выдатная гэтая дарога ў калядны сезон, калі мноства калядных кірмашоў дададуць шарм і каларыт у вашую вандроўку.

**Вінная дарога**

Вінная дарога, якая ідзе па тэрыторыі зямлі Райнланд-Пфальц, з'яўляецца найстарым маляўнічым маршрутам у Германіі. Пачынаючыся на паўднёвым захадзе краіны, яна цягнецца на 80 кіламетраў па звілістых дарогах уздоўж другога па велічыні вінаробнага рэгіёна Германіі да самай мяжы з Францыяй.

Нацешыцеся больш чым тысячагадовай віннай культурай Пфальца ў маленькіх вёсках, старамодных рэстаранах, рознакаляровых вінаградніках і падчас мясцовых свят ураджаю.

Адчуйце мясцовы каларыт на фермерскіх кірмашах пад голым небам і вінных фэстах, якія святкуюцца ў перыяд з канца вясны да позняй восені.

Звярніце ўвагу, што ў апошнюю нядзелю жніўня аўтамабільны рух забаронены ўздоўж усяго маршруту, які адкрыты толькі для пешых турыстаў, раварыстаў і скейтараў, якімі запоўнены ўсе прыдарожныя адкрытыя пляцоўкі бараў.




*Вінная дарога. adfc-radtourismus.de*

*Лера Лявонава, germania.one*

*Валер Санько*

# Свецяць сонца і прыкметы

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пропаведзі ўяўнай старажытнарускай народнасці, адзінай для рускіх, украінцаў, беларусаў, гучаць у Расіі ўсё мацней. Болей таго, прапаведнікі заходнерусізму асмельваюцца залазіць у дзясятае, дванаццатае стагоддзі. Доктар Бялько доўга разбіраўся ў іхняй логіцы. Высветлілася, якраз логікі ў іх няма ні жыцейскай, ні навуковай:

1. Тэрміны Русь і славяне дарэмна аб'ядноўваюць цяперашнія рускія. У 1654 годзе далучылася да Масковіі не Украіна, а войска запарожскае на чале з гетманам Багданам Хмяльніцкім.

У тэзісах ЦК КПСС 1954 года ўпершыню аб'яўлена, што старажытнаруская народнасць агульны продак для рускіх, украінцаў, беларусаў. Гэты міф даўно разбіты. Акадэмік РАН Валянцін Янін даказаў праз надпісы на берасцяных граматах Ноўгарада, зробленыя яны на мове славян Палабскай Русі (лехіцкая моўная група), карэльскай моўнай групе. А ў Кіеве, Полацку, Менску жыў карпацкі славянскі дыялект, абсалютна адрозны.

2. У тыя часы Маскоўскае княства на Ноўгарад і суседнія гарады ВКЛ не мела ніякіх правоў, як і сувязяў. Яно далучыла да сябе мноства народаў Залатой Арды - татараў, чувашоў, мардву, тувінцаў. Яны не сталі продкамі старажытнарускай народнасці, як і народы Прычарнамор'я.

Што было раней ардынскае, цяпер адносіцца да рускіх. У часы Івана Трэцяга, Васіля Трэцяга, Івана Грознага невялікім улусам Арды была тады Масква. Меншая за Вялікую Арду, Казанскую Арду, Астраханскую Арду, Сібірскую Арду. Несамастойная Масква толькі ў 1700 годзе перастала плаціць даніну Крымскаму ханству, нашчадку Залатой Арды, з якога часу пачало ўжывацца слова Расія.

У часы варажскай Русі і пазней у Масковіі не было назвы малапалякі, малафіны. Сапраўднай Русі, Кіеўскай і Літоўскай, маскоўскія валадары самасілам далі назвы Маларосія і Беларосія. Маскавіты, як маглі, стагоддзямі адмаўлялі назвы ліцвін, русін, жмудзін, маскавіт. Нават каб дапячы літоўцам, то бок беларусам іхнюю карэнную назву перанеслі на Жмудзь, сімвалам якой быў мядзведзь, а не коннік.

3. Любая нацыя праходзіць тры этапы: племя, народ, нацыя. Дзе было Маскоўскае княства ў XIII - XVI ст., калі фармаваўся беларускі этнас? Былі даннікам Арды.

Гісторыю цэняць усе. Як герб, сцяг. Даўніннасцю, калі ёсць, трэба казырыць чалавеку, роду, племені, нацыі. Яна роўніца часу. А ён немажлівы без руху і матэрыі. Дакладная прыкмета і годная ацэнка вартнасці чалавека сярод жывых, двухногіх - даўнейшасць яго роду і сям'і на планеце. Узрост мае чалавек і дзяржава.

Пры ўсім розуме мала пне мае даўніннасці. Усведамленне яе не ідзе да найвышэйшай кропкі асяжнага сусвету праз жэст, код, прыкмету, абярэг, праз сузіркі свядомых учынкаў, накіраванняў. Фізіялогіі і рэфлексаў дастаткова.

Верхная, гэтаэрная асветнасць - пена на магутных таўсцюшчых хвалях даўніннасці. Усведамляе такое пісьмовая цывілізацыя, не ўсведамляе, нечым каштоўніць, кошчыць глыбіні даўніннасці - не мае значэння. Час не проста цячэ - імкліва мерае, значыць. Ужо ён загадвае асэнсаваным не выракацца даўніннасці. Бо яна нясе і выносіць, адсейвае і выбірае, яна ўжо заходзіць у будучыню.

Калі даўніннасць праз малітоўныя і прыкметаўныя этапы ўсялілася ў асобную душу, а значыць і нацыі, вялікім грахом будзе забыць, не выказваць праявы даўнінства. Хоць у чым, хоць як, а іскры ўведанага абавязаны ты сам несці суплямennікам. Абавязаны.

Як можа, так нясе даўніну Аляксей Бялько. Ад супляменнікаў залежыць, што паўсюдзіць, каго шчаслівіць, нявечыць, нейтраліць.

Усямоцны і Найбачны карае таго, хто не хоча вучыцца, лезці ў глыбіні і вышыні Патаемня, лагічна не распетрываe яву, не імкне разблытваць клубкі супярэчнасцяў і навізны. Мінулае стукаецца ў нашыя вокны і форткі. Вітайма яго!

Хочаце, каб кроплі вашага фізічнага і духоўнага заставаліся ў свеце - успамінайце забылае, прыкметавае. Абнаўляйцеся. Не думайце, што за вас зярняткі духоўнасці будзе прарошчваць хтосьці іншы. Ты, толькі ты станеш ўмацоўваць сваю сям'ю, нацыю, дзяржаву.





# З любоўю - да зямлі, да мастацтва, да песні…

29 красавіка спаўняецца 50 гадоў **Пятроўскай Лізавеце Станіславаўне** - сябру ТБМ Валожынскай суполкі, кіраўніку Заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь "Гасцінец" і хору касцёла св. Дамініка ў Ракаве.

Як вядома, **нічога выпадковага ў жыцці не бывае, нават выпадковасці ў ім - не выпадковыя**. Гэтыя словы цесна звязаны і з таямніцай нараджэння чалавека, з прыходам якога на гэты свет Бог ужо мае на яго свае планы. І шчаслівы той, хто разгадае Божыя планы, прыме іх і будзе выконваць сваю місію - годна, пачэсна. Сказанае вышэй, можна з поўным правам аднесці і да сённяшняй юбіляркі.

*Па пладах іх пазнаеце іх…*
*Кожнае дрэва добрае*
*родзіць добрыя плады…*
*Мц 7, 16-17.*



Лізавета Станіславаўна - чалавек шматграннага таленту: мае цудоўны голас, іграе на колавай ліры, акарыне, гітары, апрацоўвае народныя песні, складае свае, піша вершы, акрамя гэтага, займаецца выцінанкай і іншымі народнымі рамёствамі. Мае дар мастака-графіка - створана галерэя партрэтаў родных, сяброў, знакамітых постацей Беларусі. Ёсць у яе і жывапісныя работы, напісаныя алеем. Ёю аформлены кабінет беларускай мовы ў Валожынскай гімназіі, дзіцячы садок у Дубіне, распісаны сцены Ракаўскай СШ. Мае добрыя арганізатарскія здольнасці. Створаныя ёю калектывы "Гасцінец", дзіцячы ўзорны "Вянок" і сямейны "Крона" - сталі ўжо брэндам культурнага жыцця Валожыншчыны. Гэта яркая, самабытная з'ява ў сузор'і талентаў Меншчыны - спевы, побытавыя танцы, сцэнічныя нумары на мясцовым матэрыяле з аўтарскай падтрымкай, адроджаныя сямейна-абрадавыя і каляндарна-абрадавыя святы. Названыя калектывы ўдзельнічаюць у абласных, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсах і фестывалях. І дзе б яны ні выступалі - заўсёды поспех. Толькі самаахвярная шматгадовая праца, энтузіязм душы, падзвіжніцтва, шчырае служэнне справе, мэта якой - працягваць традыцыі нашых продкаў, маглі даць такія плады.

Натуральна такая праца была высока ацэнена і звычайнымі гледачамі, і экспертамі. Асабіста Лізавета Станіславаўна і яе калектывы адзначаны шматлікімі дыпломамі і ўзнагародамі, і ўсе яны аднолькава дарагія для кіраўніка - на пэўным этапе. Назаву некаторыя з іх:

- Гран-пры на Рэспубліканскім конкурсе "Песні маёй краіны" (2009 г.);
- Гран-пры на Рэспубліканскім конкурсе сямейнай творчасці "Жывіце ў радасці" - "Кроне" (2011 г.);
- Прысваенне "Гасцінцу" ганаровага звання "заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь" (2010 г.);
- Ганаровая грамата Міністэрства культуры - "Гасцінцу" (2017 г.);
- Гран-пры "Вянку"на фестывалі народнай творчасці Меншчыны "Напеў зямлі маёй" (2007 г.);
- Перамога "Вянка" на Рэспубліканскім конкурсе традыцыйнай культуры дзяцей і моладзі "Берагіня" (2016 г.);
- Спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" (2008 г.) - кіраўніку "Гасцінца";
- Ганаровая грамата Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь - "Гасцінцу" (2017 г.);
- Ганаровая грамата Савета міністраў Рэспублікі Беларусь - Л. Пятроўскай (2007 г.);
- Дыплом Рэспубліканскага конкурсу "Жанчына года" - Л. Пятроўскай (2011 г.) ;
- Медаль імя Францыска Скарыны - Л. Пятроўскай за асабісты ўклад у развіццё мастацтва і культуры (2017 г.).

**Непаўторны свет маленства**

*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю.*
*Якуб Колас.*

- Мая калыска, дарагі, любы сэрцу куточак, які заўсёды вабіць, кліча, хвалюе… - так ласкава называе мая гераіня родную вёску Пілюжыну, што на Валожыншчыне, дзе ў вялікай сям'і Лямбовіча Станіслава і Станіславы (Ліза была 5-ым дзіцем з 6-ці) пашчасціла нарадзіцца яшчэ адной дзяўчынцы, якая сёння з вышыні ўжо пражытых гадоў вяртаецца ў думках у гэты непаўторны і таямнічы свет дзяцінства, каб адпачыць душой.

- З малых гадоў маю ў душы дзве творчыя "стрэмкі": музыка і маляванне. У школу хадзіла ў Вуглы, потым у Сівіцу, за чатыры кіламетры - за дарогу вунь колькі можна песень праспяваць! І калі даходзіла чарга да "Юнога барабаншчыка", то не магла стрымліваць слёз, кідала пець і пачынала нешта маляваць дубцом проста на дарозе. У школе любімымі прадметамі, вядома, былі спевы і маляванне, але захаплялася і геаграфіяй, гісторыяй, асабліва гісторыяй сярэдніх вякоў.

З дзецьмі любіла гуляць у розныя рухомыя гульні: "Воўк і авечкі", "Штандар", "Халіхало", "Дзяліць зямлю", даганялкі, выбівалкі, хаванкі… Зімой каталіся на санках, лыжах, ляпілі замкі са снегу. У хаце з малодшай сястрой Хрысцінай любілі гуляць у тэатр, ад старэйшых сясцёр заўсёды адчувала апеку.

Хадзілі ў грыбы і ягады. Ягады здавалі, а за атрыманыя грошы куплялі неабходнае для школы, і ад таго былі рады. Дапамагалі дома па гаспадарцы, таксама працавалі на калгасных "дзялках": палолі буракі, бручку…

Успамінаюцца рэлігійныя традыцыйныя святы: Сёмуха, калі тата прыносіў з лесу бярозкі, якімі ўпрыгожвалі ганак; Каляды, асабліва куцця і падарункі пад елачкай, пакладзеныя Дзедам Марозам. І такі ж ён быў здагадлівы гэты дзед-ведаў, што каму трэба. А былі падарункі сціплыя, але такія дарагія: алоўкі каляровыя, альбом для малявання, ручкі, арэшкі, трапляліся і цукеркі ды калі-нікалі нават шакаладныя. Чакалі з нецярпеннем Вялікдзень, бегалі "па жаках", а вечарам чакалі валачэўнікаў. І колькі было радасці, шчасця, уцехі… А ўражанняў!

**Духоўная повязь пакаленняў**

*Жывём мы*
*пад кронай сямейнага дрэва,*
*Сілы бяром ад дзядоў-каранёў.*
*Як і яны, тымі ж сцежкамі ходзім,*
*Нас разам з імі яднае Любоў -*
*да зямлі,*
*да мастацтва,*
*да песні…*
Лізавета Пятроўская.

Якую б пышную крону ні мела дрэва, яно засохне, калі не будзе мець моцных каранёў, якія трымаюць гэта дрэва, сілкуюць яго сокамі жыватворных крыніц зямлі.

Такімі каранямі для юбіляркі з'яўляюцца яе дзяды з вядомага роду Лямбовічаў-музыкантаў. Усе яны - бацька, дзед, прадзед, дзядзькі, цёткі - кожны меў дачыненне да музычнага мастацтва (igralі на акардэоне, цымбалах, скрыпцы, бубне, аргане…), дзед Міхась яшчэ і рамантаваў арганы, гармонікі. У Івянецкім музеі традыцыйнай культуры захоўваецца копія дыплома-пасведчання аб уручэнні яе прадзеду Кліменту Лямбовічу сярэбранага медаля за зроблены керамічны арган. Гэты арган і дзве яго фісгармоніі яшчэ да вайны захоўваліся ў касцёлах Валожыншчыны.

На жаль, прадметы матэрыяльнай культуры не могуць жыць вечна. Але духоўныя каштоўнасці, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, будуць захоўваць столькі, колькі будуць мець працяг у нашчадках.

А працягваць ёсць каму - музычныя здольнасці і цяга да мастацтва перадаліся ад дзядоў маладому пакаленню. Прырода не абышла ўвагай і дзяцей Пятроўскай, яны з'яўляюцца ўдзельнікамі калектываў, якімі кіруе іх маці. І кожны з іх - асоба, кожны праяўляе сваю індывідуальнасць, аддае перавагу сваім прыярытэтам. Сабіну захапіў свет мілагучнай ігры на скрыпцы. Яна - навучэнка Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага. Дамініку змалку палюбілася гітара, потым пад уздзеяннем майстра-музыкі Тодара Кашкурэвіча захапіўся старажытнай дудой - і прыкіпеў да яе сэрцам. Зараз павышае сваю музычную кваліфікацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Станіслаў - самы актыўны ўдзельнік "Гасцінца", "Вянка", "Кроны", дзе сваім адметным барытонам надае своеасаблівы каларыт народнай песні. Кастуся яшчэ школьнікам вабіў ваяўнічы дух воінаў-рыцараў з далёкага, таямнічага сярэднявечча. Рыцарскія даспехі, у якія ён быў апрануты падчас выступлення "Гасцінца" на конкурсе-фестывалі "Песні маёй краіны", былі зроблены сваімі рукамі. Дзіцячае захапленне прадвызначыла будучую прафесію - майстра-тэхнолага зварачных работ. Зараз працуе кавалём, а атрыманыя веды па ўласцівасцях металу дапамагаюць лепш адчуць матэрыял, з якога выходзяць не толькі звычайныя традыцыйныя прадметы ўжытку, але і мастацкія рэчы.





**Мае ўніверсітэты**

Талент - Божы дар. І мець гэты дар - вялікае шчасце і вялікая адказнасць: як скарыстаць гэты дар, куды накіраваць яго, як спраўдзіць Божыя планы? І тут важна ўсё - асяроддзе, выхаванне, схільнасці, людзі, якія трапляюцца на жыццёвым шляху.

Лізавета Станіславаўны прызнаецца:

- На стаўленне маёй асобы з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, на фарміраванне майго светапогляду, урэшце на выбар прафесіі і перавагу займацца народнай песняй многае што паўплывала. Перш-наперш гэта сямейнае выхаванне, дзе высока цанілі ўсё, што звязана з прыгожым, з творчасцю. Гэта кніжкі з дамашняй бібліятэкі, ад дзіцячых да Караткевіча. Тая таямнічая атмасфера, якая стваралася падчас вячорак у бацькоўскай хаце, калі жанчыны пад шум калаўротаў расказвалі розныя гісторыі і спявалі. Затым вучоба ў мастацкім каледжы імя А. К. Глебава, якая спрыяла гарманічнаму развіццю асобы. Гэта аднакурснікі, з якімі ўтварылі суполку "Агмень", мэтай якой было вывучэнне гісторыі беларускага мастацтва і традыцыйнай культуры. Тут глыбей былі асэнсаваны фальклор, каляндарна-абрадавыя святы. Знаёмства з фальклорным гуртом "Дзянніца", дзе неўзабаве стала салісткай. Сустрэчы з цікавымі людзьмі, асабліва падчас гастрольных падарожжаў па краінах Балтыі.

Вельмі ўдзячна кіраўніку "Дзянніцы" Ларысе Сімаковіч, якая навучыла правільна падаваць народную песню. Затым былі плённыя ўрокі па вакалу Уладзіміра Неўдаха, выкладчыка музыкі, арганіста касцёла св. Роха, што на Залатой Горцы, дзе спявала ў парафіяльным хоры. Семінары-практыкумы, якія наладжваў Менскі абласны цэнтр народнай творчасці. Асаблівы паклон самім носьбітам і захавальнікам традыцыйнай народнай культуры - маім землякам, людзям простым, якія дзяліліся гэтымі залацінкамі бессмяротнай спадчыны і навучалі жыццёвай мудрасці.

**Перадусім - ЛЮБОЎ**

Дык што ж галоўнае ў маёй гераіні, чым яна кіруецца ў сваім жыцці, творчасці, адкуль бярэ сілы, натхненне? На такое пытанне Лізавета Станіславаўна дала просты, натуральны адказ, поўны чалавечай годнасці і высакародства:

- Пра "галоўнае" добра сказаў Янка Купала: "Не шукай ты шчасця, долі На чужым, далёкім полі…" Можа, гэтыя словы на сёння трохі патэтычныя і банальныя, але справядлівыя і схіляюць на роздум: найбольш поўна рэалізаваць свае здольнасці, займацца працай, якая прыносіць задавальненне сабе і карысць людзям, Бацькаўшчыне, можна толькі на той зямлі, дзе радзіўся. А чэрпаю сілы ў рабоце, бо вельмі яе люблю; у зямлі, Радзіме, бо гэта самае асноўнае ў чалавеку; у гісторыі свайго краю, бо маю гонар, як і кожны беларус, быць нашчадкам вялікіх і слаўных постацей; у сям'і, бо гэта самае дарагое, што ёсць у кожнага, і, як звяно паміж прадзедамі і праўнукамі, адчуваю адказнасць за тое, што пакінем мы сваім нашчадкам, як будуць жыць яны, чым цікавіцца, ці будуць працягваць тыя традыцыі, якія перадалі нашы продкі мне, нашай сям'і; у веры ў дабро, розум, Божую міласэрнасць, справядлівасць і любоў. Перадусім - ЛЮБОЎ. Без любові любая праца не прынясе карысці. Без любові няма ні чалавечнасці, ні духоўнасці, ні самога жыцця.

***Людвіка Таўгень,***
***фота Лізаветы Таўгень.***


*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by





**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 23.04.2018 г. у 17.00. Замова № 1138.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1,62 руб., 3 мес.- 4,86 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.